# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

№ 33 (2279) 13 жніўня 1992 г. Выдаецца з 1955 г.

Цана 50 кап. (па падпісцы — 8 кап.)

**Відаць жа, мудрыя людзі пусцілі гуляць па свеце гэтую прымаўку: «Як у народзе, так і ў пагодзе». Да ўсіх нашых сацыяльных узрушэнняў, маральнай разгойсанасці, міжканфесійных сварак дадалася яшчэ і неміласэрнасць стыхіі. Такога лета, як 1992 года, не памятаюць нават самыя старыя жыхары Беларусі. Яно застанецца, відаць, толькі ў нашай памяці, і дай Бог, каб яшчэ такога не было. Гарачыня, спякота, засуха. Выгарэлая трава, сухі нават мох у лесе. І як непазбежнае — пажары.**

**У Беларусі ўжо згарэла каля 5 тысяч гектараў лесу. Трашчаць бары, смыляць тарфяныя балоты, успыхваюць ад адной неасцярожнай іскры палеткі збажыны. Нават загараюцца трактары і камбайны на хаду! Але самае небяспечнае — у забруджаных зонах Гомельшчыны і Магілёўшчыны палаючыя лясы павышаюць узровень радыяцыі.**

**Становішча настолькі небяспечнае, што забаронены ўваход у лес і нават адкладзены на неакрэслены час сезон палявання, які павінен быў пачацца 8 жніўня.**

**А гарачыня не спадае...**

**НА ЗДЫМКАХ: гарыць беларускі лес.**

**Фота Юрыя ЗАХАРАВА.**








**Янку Брылю 4 жніўня споўнілася 75 год. Рэдакцыя «Голасу Радзімы» сардэчна віншуе пісьменніка з днём нараджэння і шчыра жадае яму натхнення ў творчасці і радасці ў жыцці. Чытачам з гэтай нагоды хочацца пажадаць новых цікавых сустрэч з героямі твораў Янкі Брыля. А тым, для каго першае спатканне са светам пісьменніка — наперадзе, можам толькі па-добраму пазайздросціць. Іх чакае ў кнігах Брыля непаўторная душэўнасць і спагадлівасць да чалавека.**

**(Фотарэпартаж пра пісьменніка змешчаны на 6-й стар.).**

*ПАГАВОРЫМ ПА ШЧЫРАСЦІ*

# КОЛЬКІ МОЖНА ЦЯРПЕЦЬ, КОЛЬКІ МОЖНА САРОМЕЦЦА

## ГУТАРКА СА СТАРШЫНЁЙ БЕЛАРУСКАГА ЗГУРТАВАННЯ ВАЙСКОЎЦАЎ ПАДПАЛКОЎНІКАМ МІХАІЛАМ СТАТКЕВІЧАМ

**— Міхаіл Віктаравіч, менш за ўсё мне хацелася б, каб наша гутарка насіла афіцыйна-правільны характар. А таму давайце можа крыху збочым ад тэмы. Ведаю, што многія ў войску, асабліва за межамі Беларусі, чытаелі і чытаюць «Голас Радзімы», перапісваюцца з намі, сталі нашымі аўтарамі. У мяне даўно склалася ўражанне, што беларусаў—ваеннаслужачых былой Савецкай Арміі вызначае ці не найвышэйшая ступень нацыянальнай свядомасці ў параўнанні з іншымі сацыяльнымі групамі. Калі я не памыляюся, тады адкажыце мне, чым вытлумачыць такую з'яву.**

— Не памыляецеся, цалкам пагаджаюся з вамі. А тлумачыў бы гэта вось чым. З дзяцінства ў нас сядзела: мы — адзіная супольнасць, савецкі народ. Нібы ўсе аднолькавыя, асабліва — славяне. І вось калі ты, маладзенькі лейтэнант, трапляў у Расію, не раптам, але пачынаў разумець сваю адметнасць: ты трохі не такі, як рускі ці ўкраінец. Я зусім гэтым не хацеў бы сцвярджаць, што людзі на Украіне ці ў Расіі горшыя ці лепшыя, проста іншыя, псіхалогія іншая, паводзіны, культура.

Асабліва, калі апынешся недзе ў Расіі: у вёсцы голыя дамы з паламанымі агароджамі, дзе нічога не расце. І прыпамінаеш: нават каля самай беднай беларускай хаткі кветкі, цыбулька пасаджана. І пачынаеш разумець: які працавіты твой народ. Стаўленне да людзей іншае: беларусы — мякчэйшы, больш памяркоўны народ, няма той грубасці і хамства, што ў Расіі. Мабыць, гэта тое, што складае менталітэт нацыі, нашу псіхалогію.

І яшчэ адно: беларуса заўсёды цягне на радзіму, мабыць, гэтая рыса ў меншай ступені ўласцівая расейцам ці ўкраінцам. Паглядзіце, з якой ахвотай застаюцца расейцы ў Беларусі. А беларус заўсёды імкнецца вярнуцца дадому.

**— Вось так сталеюць маладыя лейтэнанты, так прыходзіць да іх усведамленне нацыянальнай адметнасці і выветрываецца прапагандысцкі інтэрнацыяналізм. Гэта, як я разумею, агульная заканамернасць. Але ж у кожнага ёсць нешта сваё, асабістае, тая глеба, на якой ён узгадаваны, ці што?**

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

ПРЫЗНАЧЭННІ

## ПАСОЛ РАСІІ Ў БЕЛАРУСІ

Указам Прэзідэнта Расійскай Федэрацыі Ігар Сапрыкін прызначаны Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Расійскай Федэрацыі ў Рэспубліцы Беларусь. Пра гэта паведамілі з дэпартамента інфармацыі і друку Міністэрства замежных спраў Расіі.

БЕЛАРУСЬ—ААН

## ДЭПАРТАМЕНТ ІНФАРМАЦЫІ

Восенню ў Мінску адкрыецца пастаяннае прадстаўніцтва дэпартамента грамадзянскай інфармацыі ААН. Аб гэтым паведаміў на прэс-канферэнцыі пастаянны прадстаўнік Рэспублікі Беларусь пры ААН Генадзь Бураўкін. Фізічная прысутнасць такой уплывовай арганізацыі на яе тэрыторыі вельмі важная для рэспублікі. Упершыню ў гісторыі беларускай дзяржаўнасці ў людзей з'явіцца магчымасць карыстацца неабходнай інфармацыяй з першых рук.

АРГУМЕНТЫ І КОНТРАРГУМЕНТЫ

## ЗАКОН АБ ПСІХІЯТРЫІ

З непрадбачанымі цяжкасцямі сутыкнуліся распрацоўшчыкі праекта Закона Рэспублікі Беларусь аб псіхіятрыі. Праект быў падрыхтаваны ў красавіку бягучага года, але да гэтага часу не прайшоў узгаднення ў Савеце Міністраў рэспублікі. Каменем спатыкнення стала Палажэнне аб прымусовым лячэнні хворых, якія пакутуюць ад псіхічных захворванняў. Распрацоўшчыкі праекта прапануюць узаконіць змяшчэнне хворых у клініку толькі з санкцыі суда, аргументуючы гэта тым, што толькі суд можа абмежаваць чалавека ў свабодзе. А змяшчэнне на прымусовае лячэнне ў псіхіятрычную клініку — не што іншае, як пазбаўленне волі. Вярхоўны суд рэспублікі катэгарычна супраць таго, каб на судовыя органы былі ўскладзены такія функцыі, хоць падобная практыка існуе ў большасці развітых краін.

СА СВАЁЙ ЗВАНІЦЫ

## «МОНД» АБ БЕЛАРУСІ

Каменціруючы інтэрв'ю Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь Вячаслава Кебіча, дадзенае ім гэтай французскай газеце ў час свайго знаходжання ў Парыжы, «Монд» піша:

«Беларусь — гэта парадокс: у гэтай самай маленькай з трох славянскіх рэспублік, утвораных пасля распаду СССР, дагэтуль было менш за ўсё палітычных узрушэнняў, і ў той жа час яна мае самыя неблагія эканамічныя паказчыкі. Тое ж самае датычыцца і новага беларускага заканадаўства. Беларусь не ведае міжэтнічных канфліктаў, яна вельмі невялікая, каб сапернічаць з Расіяй ці Украінай, яна не імкнецца заняць першыя месцы, робячы гэта толькі ў тым выпадку, калі выступае як пасрэднік. На сённяшні дзень гэтая дзяржава паўстае як узор праўлення разважлівасці ў імя развіцця эканамічнага супрацоўніцтва на здаровай аснове».

ДЗЕЛАВОЕ ПАРТНЁРСТВА

## ПЕРШАЯ ЗАМЕЖНАЯ ФІРМА

Саюз прадпрымальнікаў Беларусі прыняў у свае рады першую замежную фірму — каліфарнійскую кампанію «Фаеберд Інтэрнэшнл». Крок гэты абодва бакі тлумачаць не палітыкай, не пошукам новых спосабаў рэкламы, а супадзеннем дзелавых інтарэсаў.

Фірма «Фаеберд Інтэрнэшнл» працуе ў Беларусі ўжо каля 10 гадоў. Спачатку на ніве турызму і культурных сувязей, цяпер яна будуе тут зборнае жыллё, выпускае некаторыя элементы радыёэлектроннай апаратуры.

Восенню фірма, што супрацоўнічае з многімі дзяржавамі свету, мае намер прывезці ў Беларусь цэлую групу зацікаўленых бізнесменаў з ЗША, якія хочуць удзельнічаць у маючым адбыцца ў снежні міжрэгіянальным і міжнародным кірмашы, а таксама ў развіцці прадпрымальніцтва ў нашай рэспубліцы. Акрамя таго, амерыканцы ўзяліся памагчы нам з рэалізацыяй шэрагу праграм — па арганізацыі гуманітарнай і медыцынскай дапамогі з ЗША па заказах Саюза прадпрымальнікаў, пры правядзенні чарговай міжнароднай канферэнцыі па развіццю малога бізнесу і іншым.

АПЫТАННЕ

## ШТО АДКАЗАЛІ МІНЧАНЕ

Чарговае апытанне грамадскай думкі правяла сацыялагічная група «Вольная думка» інфармацыйнага агенцтва «БелаПАН».

Яго тэмай сталі «зносіны» радавых грамадзян са злачынцамі. Было апытана 500 мінчан. Высветлілася, што пасля 1985 года 10 працэнтаў апытаных былі абкрадзены, 30 працэнтаў падвергліся хуліганскаму нападу, 14 працэнтам пагражала смяртэльная небяспека. Але часцей за ўсё мінчане становяцца ахвярамі ўласнай прастадушнасці — 53 працэнты апытаных пацярпелі ад варажбітак, напарстачнікаў, аферыстаў.

ГАЛЕЕМ

## ПУСТА Ў МАГАЗІНАХ

У параўнанні з першым паўгоддзем мінулага года сёлета паступіла ў продаж менш: шарсцяных тканін — на 23 працэнты, шаўковых — на 38, ільняных — на 51, скуранога абутку — на 31 працэнт. Значна зменшылася і пастаўка харчовых тавараў: кандытарскіх вырабаў — на 29 працэнтаў, мяса — на 32, цукру — на 38, рыбы — на 60.

ПРАГРАМА АДРАДЖЭННЯ

## МЕМАРЫЯЛ КАЛІНОЎСКАГА, КОМПЛЕКС МІЦКЕВІЧА

Мемарыял нацыянальнага героя Беларусі Кастуся Каліноўскага, у які ўвойдуць аднаўленая сядзіба, музей, намечана стварыць у бліжэйшыя гады на Гродзеншчыне. Такі адзін з пунктаў рашэння, прынятага сесіяй абласнога Савета народных дэпутатаў.

У прынятым рашэнні прадугледжана распрацаваць абласную праграму кансервацыі, аднаўлення помнікаў архітэктуры, старадаўніх паркаў і цэнтраў гістарычнай забудовы. Для гэтага плануецца стварыць спецыяльны фонд з бюджэтных і іншых сродкаў. Да 200-годдзя з дня нараджэння Адама Міцкевіча намечана адкрыць літаратурна-гістарычны комплекс, прысвечаны славутаму паэту.

ГОСЦІ З ІЗРАІЛЯ

## ПРАЗ ПАЎСТАГОДДЗЯ

Мабыць, настальгія па радзіме прывяла нядаўна ў Баранавічы неафіцыйную дэлегацыю землякоў-эмігрантаў з Ізраіля. У 40-я гады яны пакінулі Беларусь і толькі цяпер змаглі наведаць зямлю сваіх дзядоў.

Дарэчы, усе 22 «дэлегаты» не забылі роднай мовы. Яны наведалі старыя, амаль знікшыя яўрэйскія магілкі, а ў вольны час рабілі аўтобусныя «круізы» па горадзе.

Госці былі здзіўлены, што ў Баранавічах, насуперак іх чаканню і чуткам у Тэль-Авіве, няма разрухі і голаду.

У знак сваёй прыязнасці да землякоў для гарадской дзіцячай палiклінікі яны прывезлі два інгалятары і рашылі ўнесці важкі ўклад у будаўніцтва новага мемарыяла «Смуткуючая маці», які ў хуткім часе павінен быць адбудаваны за горадам.

СПАЧАТКУ МУРЫ

## «ФАРА ВІТАЎТА»

Завершана абследаванне фундаментаў прыходскага касцёла «Фара Вітаўта» ў Гродне — былога помніка архітэктуры XV—XVI стагоддзяў. Гэты храм, які лічыўся самым буйным і прыгожым у Вялікім княстве Літоўскім, па распараджэнню улад у 1961 годзе быў узарваны. На яго месцы заклалі сквер.

Па выніках раскопак, якія працягваліся некалькі тыдняў, археолагі разам з іншымі спецыялістамі прыйшлі да заключэння, што фундаменты на радкасць добра захаваліся і пасля адпаведных работ могуць прыняць на сябе новы будынак. Аднак для яго аднаўлення спатрэбіцца значныя матэрыяльныя сродкі, якія ў бліжэйшыя гады наўрад ці паявяцца ў мясцовых улад. Таму, як паведамілі карэспандэнту БЕЛІНФАРМ у абласным упраўленні па рэстаўрацыі помнікаў гісторыі і культуры, спачатку будзе падрыхтаваны праект кансервацыі фундаментаў, а затым пачнецца аднаўленне будынка. Адроджаны храм дасць магчымасць вярнуць архітэктурную гармонію цэнтральнай часткі горада.

СНІД (AIDS)

## ПАГРОЗА ПАВЯЛІЧВАЕЦЦА

Згодна з прагнозам, пік эпідэміі СНІДа прыйдзецца на першыя дзесяць гадоў трэцяга тысячагоддзя. Апошні дзесятак гадоў XX стагоддзя мы будзем яшчэ ў большым страху перад гэтым вірусам. Надзея на тое, што хаця б адзінкі з хворых СНІДам не памруць, пакуль прывідная.

Па звестках, якія ёсць у Рэспубліканскім цэнтры па прафілактыцы і барацьбе са СНІДам, на сённяшні дзень у Беларусі ВІЧ-інфіцыраваных — 79 чалавек, з іх 5 дзяцей.

За сем месяцаў гэтага года зарэгістравана ўжо 10 выпадкаў інфіцыравання. У мінулым годзе за такі ж перыяд было выяўлена ў два разы менш, а за ўвесь 1991-год — 12 выпадкаў (два — са смяротным зыходам).

Часцей за ўсё заражэнне адбываецца палавым шляхам (усяго на сённяшні дзень зарэгістравана 19 выпадкаў, з якіх 8 — у выніку гомасексуальных кантактаў).

Насцярожвае тое, што ў нашай рэспубліцы зарэгістраваны выпадкі ВІЧ-інфекцыі і сярод наркаманаў. Ні ў якой іншай дзяржаве СНД такіх фактаў не выяўлена. Гэта, па меркаванню спецыялістаў, можа прывесці да ўспышак віруса.

Ва ўсіх абласцях Беларусі, за выключэннем Гродзенскай, ёсць выпадкі ВІЧ-інфіцыраваных. Найбольшая колькасць інфіцыраваных — у Мінску.

Самы прадукцыйны ўзрост носьбітаў СНІДа (75 працэнтаў) — ад 20 да 30 гадоў.

КАМПЕТЭНТНАЯ ДУМКА

## МАЛА ВЯСЁЛАГА

У эндакрыналагічным дыспансеры Мінска адбыўся семінар урачоў-эндакрынолагаў з удзелам спецыяліста з Лондана Катрын Годэн. Вось ужо некалькі гадоў яна займаецца вывучэннем паходжання і лячэння цяжкай хваробы — дыябету.

Пабываўшы ў Магілёве і Гомелі, паглядзеўшы на ўсё сваімі вачыма, Катрын Годэн сказала: «У тым што я ўбачыла, мала вясёлага: недахоп лекаў, дрэннае харчаванне і вельмі вялікая колькасць людзей, якія пакутуюць на дыябет. У мяне ёсць падставы думаць, што паміж гэтым захворваннем і чарнобыльскім выбухам ёсць пэўная сувязь».

ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

● За дзень у рэспубліцы адбываецца ў сярэднім 2 забойствы, 4 разбоі, 68 крадзяжоў дзяржаўнай і асабістай маёмасці. Назіраецца рост усіх відаў злачынстваў. Апошнім часам рэзка «амаладзілася» злачыннасць. На 10 тысяч нашага насельніцтва прыпадае 60 малалетніх злачынцаў.

● Прaцягваецца экспансія ў рэспубліку фальшывых долараў ЗША. Эксперты называюць канкрэтны адрас: ілжэдолары паступаюць з Польшчы, дзе іх навучыліся па-майстэрску падрабляць. Прычым частку спецыяльна прывозяць польскія камерсанты, каб абдурыць тут, а частку — абдураныя на варшаўскім і іншых рынках нашы.

● Адраджаецца беларуская пратэстанцкая царква. Яе вернікі пакуль што не маюць свайго сталага памяшкання і збіраюцца ў мінскай бібліятэцы імя Пушкіна. Пастар евангельскай царквы Эрык Сабіла надаўна хрысціў першых вернікаў.

● За апошнія пяць год у 5 разоў скараціўся прырост насельніцтва ў Магілёўскай вобласці. Колькасць памерлых сёлета можа перавысіць колькасць нованароджаных. Толькі кожная пятая жанчына хоча ў наш час мець дзіця.

● Улады гарадскога пасёлка Краснаполле (Магілёўская вобласць) рашылі ўрэшце назваць нейк сваю цэнтральную плошчу, якая гадамі была безыменнай. Рашэннем Савета народных дэпутатаў ёй нададзена... імя Леніна.

● У Мінску мае адкрыцца яўрэйская нацыянальная школа. У яе ўжо запісаліся каля 500 дзяцей. Сярод іх ёсць і беларусы, і рускія. Распрацавана ўжо праграма. Настаўнікі будуць як мясцовыя, так і прыезджыя — з Ізраіля.

ЭКАЛАГІЧНАЯ МІЛІЦЫЯ



Экалагічная міліцыя створана ў Мазыры пры гарадскім аддзеле ўнутраных спраў. Узначаліў яе Мікалай Бялько, у мінулым старшы ўчастковы інспектар. Двойчы на тыдзень разам з прадстаўнікамі гарвыканкома, мясцовай санстанцыі, службаў камунальнай гаспадаркі праводзяцца рэйды па праверцы санітарнага стану горада. У полі зроку экалагічнай міліцыі — і гарадскі парк аўтамабіляў, у прыватнасці, кантроль за захаваннем норм выкідаў у атмасферу шкодных газаў.

НА ЗДЫМКУ: старшы інспектар экалагічнай міліцыі Мікалай БЯЛЬКО (справа) і грамадскі памочнік Мікалай БАЛАБАЙКА ў час праверкі стану гарадскіх лагчын.

*ПАГАВОРЫМ ПА ШЧЫРАСЦІ!*

# КОЛЬКІ МОЖНА ЦЯРПЕЦЬ, КОЛЬКІ МОЖНА САРОМЕЦЦА

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

— Мае карані ў Случчыне. Я вельмі ганаруся гэтым, бо лічу, што Случчына — гэта сэрца Беларусі. Да гэтага часу я згадваю мову бабуль, старэнькіх непісьменных случчанак, якіх не закранула так званая цывілізацыя. Іх толькі слухаць і слухаць — настолькі прыгожа. І калі сустракаеш у друку: беларуская мова штучная, некім выдуманая, так і хочацца сказаць: паслухалі б вы тых бабулек на Случчыне! У іх трэба было б павучыцца нашым дыктарам на Беларускім тэлебачанні.

Я жыў у беларускамоўным асяроддзі, у нас у школе, калі нехта гаварыў парыску, то лічылі, што ён «выпендрываецца». Я ўзгадаваны ў тым краі, дзе было Слуцкае паўстанне. Пра яго я даведаўся, будучы вучнем, са школьнага рукапіснага часопіса, але там было напісана пра нейкае кулацкае паўстанне. У каго я ні пытаў, ніхто не мог (ці не хацеў, бо баяўся) растлумачыць, што гэта была за падзея. Але згадка пра паўстанне засела ў маёй галаве.

Мне яшчэ пашанцавала, што і жонка ў мяне таксама случчанка, вельмі любіць сваю мову.

Я трачу раўнавагу, калі чую, што нехта патрабуе дзве дзяржаўныя мовы. Думаю, што Беларускае згуртаванне вайскоўцаў адрэагуе на такую палітыку адпаведным чынам і саромецца ў выразах мы не будзем. Апрача ўсяго, палітыка двухмоўя стварае падставы для беларускага шавінізму. Беларусы вельмі спакойны народ, але колькі можна цярпець, каб нам пагарджалі. Кажуць, што ўсяго некалькі працэнтаў беларусаў выступаюць за дзяржаўную мову — беларускую. Але гэта найбольш актыўная частка нашага грамадства. У адказ на такое стаўленне да іх мовы яны могуць пайсці і на радыкальныя крокі. Так што мы збіраемся выступіць з адкрытым лістом у абарону мовы.

**— Раз вы ўжо перайшлі ад асабістага да справы Беларускага згуртавання вайскоўцаў, то можа раскажаце нашаму чытачу, як і дзеля чаго ўзнікла БЗВ.**

— Пачалося ўсё ў далёкім Казахстане. У 1989 годзе афіцэры-беларусы стварылі суполку ТБМ. Мушу зазначыць, што ўвесь беларускі вайсковы рух выступаў «пад дахам» Таварыства беларускай мовы. Адначасова з гэтым у Мінску група афіцэраў занялася распрацоўкай канцэпцыі стварэння беларускага войска на базе існуючай Савецкай Арміі. Развіццё падзей у СССР выклікала нашу заклапочанасць. Ведаючы сумны вопыт 1918 года, калі на тэрыторыі Беларусі распадалася расійскае войска і яно, а таксама бандыцкія атрады розных палітычных сілаў звонку прынеслі ў наш край грамадзянскую вайну, нашы вайскоўцы ставілі на мэце засцерагчы народ ад кровапраліцця. А хто ж абароніць яго? Толькі свая нацыянальная армія.

Да пачатку 1990 года канцэпцыя была падрыхтавана, і «ЛіМ» меў мужнасць надрукаваць яе ў сціслым выглядзе. Пасля гэтага вайсковы рух пачаў набываць усё больш выразныя рысы руху барацьбы за беларускае войска. Падзеі жніўня 1991 года прыспешылі працэс нашага арганізацыйнага афармлення — 20 жніўня было прынята рашэнне аб стварэнні БЗВ.

**— Такім чынам, вы выйшлі «з-пад даху» ТБМ і адкрыта заявілі, хто вы такія? Ці азначае гэта, што беларускі вайсковы рух узнік у падполлі?**

— Шчыра кажучы, гэта была падпольная арганізацыя. Выступалі пад шыльдай ТБМ, але ўсе распрацоўкі вяліся падпольна. Напрыклад, публікуючы праграму вайсковага руху, я карыстаўся псеўданімам. Упершыню адкрыта я выступіў на з'ездзе БСДГ. Я быў падрыхтаваны да таго, што мяне звольняць з войска, але разлічваў сама мала на паўгода службы, за гэты час я меркаваў як мага шырэй выкласці свае погляды, паўплываць на грамадскую думку.

Генерал Клімаў, начальнік вучэльні, дзе я служыў, з-за мяне быў звольнены і дачасна памёр. Генерал не падзяляў маіх поглядаў, але гэта быў проста сумленны чалавек.

**— БЗВ не назавеш масавай арганізацыяй — усяго 1 тысяча аднадумцаў. Вам паранейшаму ставяць палкі ў колы — ваша пазіцыя скажаецца. Тым не менш ваш уплыў расце. Нядаўна вас прыняў сам спадар Станіслаў Шушкевіч. Гутарка з ім вас задаволіла?**

— Мы абмяркоўвалі тры блокі пытанняў. З першага — найважнейшае: аб прысязе. Тут мы цалкам знайшлі ўзаемапаразуменне са Старшынёй Вярхоўнага Савета. Ён згадзіўся з нашай пазіцыяй: усе афіцэры павінны быць прыведзены да беларускай прысягі. Цяпер афіцэры ведаюць сваю перспектыву і могуць свядома прыняць рашэнне: ці будуць яны служыць у беларускім войску. Бо многія думаюць так: можна ў войску служыць, а прысягі не прымаць. І калі ўзнікне небяспека, пагроза, не ісці абараняць Беларусь — яны ж прысягі не давалі.

Другі блок пытанняў звязаны з патрыятычным выхаваннем у грамадстве. Шушкевіч ухваліў нашу дзейнасць, зрабіў нам некалькі заўваг, канкрэтных і практычных.

І трэці блок пытанняў, які мы абмяркоўвалі, вельмі далікатны. Гэта — пра дзейнасць знешніх сіл на тэрыторыі Беларусі. У прыватнасці, гаварылі пра дзейнасць польскіх каталіцкіх місіянераў у заходніх раёнах Беларусі. Мы разумеем, што гэта надта далікатная праблема, але не можам не звярнуць на яе ўвагі кіраўнікоў дзяржавы. Мы не збіраемся ўмешвацца ў такую шляхетную справу, як адраджэнне каталіцкай веры, але нас вельмі непакоіць антыдзяржаўная дзейнасць грамадзян чужой дзяржавы.

Ніхто не ведае, што за місіянеры прыязджаюць да нас, на чыё запрашэнне, на чые грошы, вучаць нашых дзяцей. Чаму яны вучаць? Гэта незаконна, такі працэс павінен рэгулявацца мясцовымі Саветамі Рэспублікі Беларусь.

Мы прытрымліваемся той думкі: хай чалавек лічыць сябе палякам, але ён павінен быць патрыётам Беларусі, а не тым палякам, які лічыць, што ён жыве на «крэсах усходніх» і што гэта — частка Польшчы.

**— Міхаіл Віктаравіч, цяпер, калі асноўная мэта вашага руху — стварэнне беларускага войска — нібы ўжо і дасягнута, ва ўсякім разе ідзе працэс яго стварэння, — цяпер БЗВ пераносіць свае намаганні на патрыятычнае выхаванне. Якія акцыі, скажам так, маштабнага характару, адмысловыя вы наважыліся правесці?**

— Нам удалося дамовіцца аб фінансаванні дакументальнага фільма «Забытая слава». І апрача таго, зноў будзем прасіць грошы ў Савета Міністраў на прыгодніцкі тэлевізійны фільм «Карона Вялікага Княства». Сцэнарый ужо ёсць. Але нам патрэбна 15 мільёнаў рублёў. Карыстаючыся выпадкам, я мушу звярнуцца да нашых землякоў-беларусаў з просьбай аб падтрымцы. 15 мільёнаў рублёў — гэта ўсяго 100 тысяч долараў. Калі б мы атрымалі гэтыя грошы, фільм быў бы зроблены. А ён так патрэбны моладзі, мне здаецца, мог бы адыграць нават пэўны пераварот у свядомасці беларусаў. Прыгодніцкі фільм «Слугі д'ябла на чортавым млыне», зняты эстонцамі, дапамог у свой час спыніць самаразбурэнне нацыянальнай свядомасці ў эстонскай моладзі.

Нездарма цяпер у Кіргізіі здымаюць фільм пра Чынгісхана. Нешта падобнае павінны зрабіць і мы.

І яшчэ адна цікавая акцыя. (Я і тут спадзяюся на падтрымку замежных суайчыннікаў). 8 верасня, сёлета, мы плануем правесці рок-канцэрт — мітынг на плошчы Незалежнасці ў Мінску. Гэта акцыя мае адбыцца ў гонар перамогі ў 1514 годзе 35-тысячнага беларускага войска над 80-тысячным маскоўскім пад Воршай. Мы хочам такім чынам расказаць моладзі, за што змагаліся нашы продкі і як яны нас выратавалі. Бо мы ў неаплатным даўгу перад імі. І шкада, што мы забыліся пра іх подзвігі.

**— Ці не думаеце вы, што ў беларускім войску, дзе 80 працэнтаў афіцэрскага корпусу — не беларусы, у БЗВ не прыбавіцца сяброў пасля такой акцыі?**

— Усё залежыць ад асобы і ўзроўню культуры. У нас ёсць расейскія афіцэры, якія выступалі ініцыятарамі стварэння ТБМ, і ёсць выпадкі, калі такіх людзей праследуюць афіцэры-беларусы. Наша акцыя не накіравана ні супраць Расіі, ні супраць расейцаў. Тым больш гэта не накіравана супраць расейцаў на Беларусі. Гэта проста наша гісторыя, наш гонар. Мы, напрыклад, святкуем перамогу пад Палтавай ці Барадзіно, але гэта не псуе нашых адносін ні з Швецыяй, ні з Францыяй.

Мы хацелі б, каб гэты дзень стаў Днём абаронцаў Радзімы. Тым больш, што гэта была абарончая бітва, на нашай зямлі; пра нашу перамогу пісала ўся Еўропа. Мы павінны ўспомніць пра яе. Колькі можна саромецца сваёй гісторыі?! Калі нехта гэтага не разумее, то што ж нам усё жыццё маўчаць пра нашых славутых продкаў? Нам гэта патрэбна зараз, нам патрэбны ўздым, бо народ наш сагнуты і зламаны. А такі народ ніколі не пабудуе квітнеючага грамадства, не падыме эканоміку.

**— Бадай, адна з самых балючых праблем — дапамагчы вярнуцца на Радзіму тым тысячам беларускіх афіцэраў, якія служаць у краінах Садружнасці. Яны рвуцца дадому. Але як ім паспрыяць? Тут узнікае шмат перашкод. Чым ім можа дапамагчы БЗВ?**

— Такая праблема можа быць вырашана толькі на дзяржаўным узроўні. Мы ж імкнёмся прыцягнуць увагу грамадскасці і прапануем дзяржаве пэўныя варыянты яе вырашэння. БЗВ зыходзіць з закона аб грамадзянстве, а ён тлумачыць, што ўсе вайскоўцы, якія служаць на тэрыторыі Беларусі, маюць права на яе грамадзянства. Але таксама ж права маюць і тыя вайскоўцы, якія нарадзіліся тут і прызываліся адсюль, а цяпер служаць за межамі рэспублікі. Кажуць, што месцаў усім не хопіць. Згодзен, але што рабіць?

Найперш трэба неадкладна вярнуць афіцэраў, якія служаць у гарачых кропках, дзе льецца кроў, ідзе вайна. Па-другое, павінна быць распрацавана дзяржаўная праграма вяртання ўсіх астатніх афіцэраў. Можна было б увесці для тых афіцэраў, што вернуцца і не знойдуць тут сабе месца ў войску, службу ў рэзерве.

Тыя людзі, якія служаць за межамі Беларусі, нам вельмі патрэбны: гэта ж адукаваныя людзі. Да таго ж іх чакаюць у Беларусі бацькі, браты, сваякі. І палітыкі павінны памятаць, што гэта — тысячы галасоў выбаршчыкаў.

Каб уладкаваць іх жыццё, варта афіцэрам дапамагчы з будаўніцтвам жылля, даць на гэта сродкі.

**— Дарэчы, як вы глядзіце на будаўніцтва гарадкоў, у прыватнасці, пад Барысавам і Слонімам, у якія маюць вярнуцца афіцэры былой Савецкай Арміі з Германіі? У большасці сваёй — гэта ж не беларусы. Чаму яны маюць магчымасць адразу трапіць у новенькую кватэру, а беларускім афіцэрам, якія служаць у Расіі, няма куды вярнуцца?**

— Мы ствараем сабе такую праблему! У гэтыя ваенныя гарадкі вернуцца людзі, якія не маюць права на наша грамадзянства. Яны не будуць мець яго яшчэ 7 год. Пачынаецца прыватызацыя, а яны не маюць права на прыватызацыйныя боны, не маюць права купіць зямлю, удзельнічаць у выбарах. Тым больш — гэтыя людзі не могуць служыць у беларускім войску. Што мы сабе ствараем?

Мы падымалі гэта пытанне. Прапанавалі ўзяць толькі тых, хто мае права на беларускае грамадзянства. Нам кажуць: а куды астатніх? Іх шкада. Дык прабачце, гэтыя людзі маюць сродкі, каб купіць сабе дом ці кватэру у любой краіне СНД. Яны атрымлівалі за службу за граніцай валютай і прыязджаюць сюды не з адным аўтамабілем. Наш афіцэр, Бог ведае, колькі чакае тут на жыллё, а афіцэр адтуль прыязджае з доларамі ды яшчэ займае шыкоўную кватэру. Хай бы яны ехалі туды, дзе служаць беларусы, на сваю радзіму, займалі іх кватэры, а нашы землякі вярнуліся ў Беларусь у будучыя ваенныя гарадкі.

**— Міхаіл Віктаравіч, як вы ставіцеся да праграмы беларусізацыі нашага войска? Пра яе ўжо была згадка ў друку. Ці рэальна гэта, каб праз 6 гадоў, як плануецца Міністэрствам абароны рэспублікі, войска наша было беларускім па мове?**

— Планы беларусізацыі войска здаюцца нам слушнымі, але мы баімся, каб гэта не было дыскрэдытавана сваім выкананнем. Тут трэба яшчэ знайсці энтузіястаў. Мы прапанавалі Міністэрству абароны ўвесці ў свае структуры нашых спецыялістаў. Такія людзі ёсць, яны служаць за межамі рэспублікі, і там іх шмат, а тут не хапае. Члены ж БЗВ на гэтыя пасады не прэтэндуюць — мы рабілі сваю справу і будзем рабіць у пазаслужбовы час. Каб толькі не перашкаджалі.

**— Вы былі ініцыятарамі стварэння беларускага войска, на вашых вачах яно сёння нараджаецца. Якім вы бачыце яго, напрыклад, праз 10 гадоў?**

— Гадоў праз 10 гэта войска будзе карыстацца вялікай павагай народа, яно будзе гонарам народа. Гэта, мабыць, будзе армія свядомых патрыётаў, якія будуць імкнуцца абараніць свой народ. Спадзяюся, што гэта будзе высокапрафесійна падрыхтаваная армія.

**— І не будзе такой ганебнай з'явы, як «дзедаўшчына»?**

— Гэта з'ява вельмі складаная і жывучая, ад яе не так лёгка будзе пазбавіцца. Тут патрэбны кардынальныя зрухі... Але я перакананы, што з ёю трэба і можна змагацца. Міжнацыянальная глеба такіх канфліктаў паступова знікае. Трэба ўзнімаць аўтарытэт малодшых камандзіраў. Я думаю, яны павінны быць прафесійнымі ў беларускім войску.

Гутарку вёў Вацлаў **МАЦКЕВІЧ**.

*НА ЗЯМЛІ БАЦЬКОЎ*

# ЦІ ЁСЦЬ ТАЯ КРЫНІЧКА...

...Загадчыца музея Беларускага таварыства сляпых Ала Іваненка павяла гасцей з ЗША ў чарговую залу. А я звярнуў увагу на маладую жанчыну, якая крышку затрымалася ля экспанатаў — лапцей, звычайных саламяных лапцей. Асцярожна кранала рукамі гэты даўнішні абутак беларускіх сялян і, павярнуўшыся да мяне, спытала:

— Няўжо і мае бацькі насілі іх?

Так, насілі. Цяжка паверыць у гэта. Але, мабыць, бацькі гэтай жанчыны, якія ў канцы Вялікай Айчыннай вайны выехалі ў ЗША, расказвалі ёй і пра свой абутак, і пра тыя прылады працы — верацёны, прасціны і іншыя, без якіх не абыходзілася ніводная сялянская сям'я.

Насычаная была праграма знаходжання групы суайчыннікаў з Кліўленда, якая прыехала па запрашэнню згуртавання «Бацькаўшчына». За нейкія два дні трэба было сустрэцца з радай згуртавання, пагутарыць з кіраўнікамі рэспублікі, пабываць у Саюзе пісьменнікаў і тут, у музеі таварыства сляпых, зрабіць паездку па памятных месцах Мінска і ў Хатынь, у Курапаты... Літаральна ні адной хвіліны на гутарку з журналістамі, якіх сабралася на сустрэчу з суайчыннікамі нямала. Даводзілася часам, як кажуць, браць кароценькія інтэрв'ю на хаду.

Сярод трыццаці чатырох гасцей з-за акіяна ўбачыў некалькі чалавек, якія прыязджалі раней. Напрыклад, Кастусь Калоша. Гады два назад ён заходзіў у таварыства «Радзіма».

— Што змянілася ў параўнанні з вашым першым прыездам сюды?— спяшаюся задаць яму пытанне і атрымліваю вельмі кароткі адказ:

— Са змен хацеў бы звярнуць увагу на дазвол кожнаму з нашай групы наведаць сваякоў, вёскі, дзе многія з нас нарадзіліся...

— Быццам я ўжо і побач са сваімі Івацэвічамі, — уступае ў гутарку Марыя Патапенка, — але не магу дачакацца наступнага дня, каб хутчэй паехаць у сваю вёсачку, знайсці тую крынічку, з якой любіла піць чыстую, халодную ваду. Колькі радоў прайшло, а ў снах, у думках я заўжды тут, у Беларусі.

Я пажадаў нашай суайчынніцы з-за мяжы знайсці тую крынічку. Хаця не ўпэўнены, што яна яшчэ бруіць. Марыя Патапенка не была на радзіме вунь колькі часу. Крынічкі ж цяпер у нас знікаюць і за адзін год.

— А вы куды і да каго паедзеце? — звярнуўся я да Вольгі Лукашэвіч.

Маладая жанчына неяк адразу разгубілася. І не змагла назваць нават раён сваёй далейшай экскурсіі.

Вольга прыехала ў Беларусь упершыню. Ды і бацькі таксама не маглі выбрацца на радзіму.

— Спадар Кастусь, — ізноў здарылася мне хвілінка звярнуцца да Калошы, — уся група турыстаў з Кліўленда вельмі добра размаўляе па-беларуску. Гэта трэба разумець як акт павагі да нас, гаспадароў? Напэўна дома вы размаўляеце на англійскай мове? — знарок запытаўся.

Госць з-за мяжы адмоўна пакруціў галавой.

— Справа не ў павазе. Проста мы ніколі не забывалі і нашу мову, і нашу культуру, і нашы святы.

— Гэтулькі гадоў пражыць за мяжой, сярод чужых.

— Бачу, што не верыце. Напэўна, ніколі ў нас у Кліўлендзе не былі?

— Не прыйшлося.

Тады спадар Калоша і іншыя замежныя суайчыннікі сталі расказваць, як трапілі ў ЗША. У гады вайны іх, трынаццаці-, пятнаццацігадовых хлопчыкаў і дзяўчынак вывезлі на работы ў Нямеччыну. Праца была цяжкай, не кожны беларускі падлетак мог вытрымаць. І ўцячы не ўдавалася. Хаця куды ўцякаць! Дадому, у Савецкі Саюз, перайшоўшы лінію фронта? Адразу трапіш у лапы энкэвэдэшнікаў. А яны не рабілі скідак ні на ўзрост, ні на тое, што пад прымусам працавалі на немцаў.

Вось і не паехалі нашы хлопцы і дзяўчаты пасля вайны на радзіму. Арганізавалі сваю калонію ў Амерыцы. Тут стварылі клуб «Полацак». Збіраюцца разам, разам святкуюць, пераносяць гора і дапамагаюць адзін аднаму ва ўсім.

Захаваўшы традыцыі, мову, вучаць гэтаму сваіх дзяцей.

...І толькі аднаго разу я пачуў ад нашых суайчыннікаў гутарку на англійскай мове. Гэта здарылася тады, калі ад музея нашы землякі пешшу накіроўваліся да рэспубліканскай бібліятэкі сляпых. На вочы турыстам трапіліся будынкі, з якіх абляцела тынкоўка, з разбітым фундаментам. І вось тады два паважаныя госці сталага ўзросту гаварылі на англійскай мове аб нашай безгаспадарчасці.

Ды такіх прыкладаў у Мінску нямала. А якія ўражанні ад нашага кепскага гаспадарання застануцца ў іх пасля наведання родных мясцін! Але нічога не зробіш, як кажуць, слова з песні не выкінеш: што ёсць, тое ёсць. Прыйдзе час, і мы таксама зажывём па-людску.

Добра, што кепскае — сёння мы ўжо ні ад кога не ўтойваем.

У гэтым сэнсе прыкладам можа служыць выступленне перад суайчыннікамі старшыні праўлення Беларускага таварыства сляпых Анатоля Нятылькіна.

— У рэспубліцы налічваецца 20 тысяч інвалідаў па зроку,— сказаў Анатоль Іванавіч.— Шэсць тысяч з іх працуе. Але цяпер колькасць працуючых скарачаецца. На прадпрыемствах пачалося беспрацоўе, і пад скарачэнне сталі пападаць у першую чаргу менавіта інваліды па зроку.

Дададзім да гэтых слоў, што сляпых не толькі скарачаюць на прадпрыемствах, але і абыходзяць з жыллём, забеспячэннем харчаваннем, ільготамі. Праўда, пакуль нясоладка жывецца ў нас не толькі інвалідам, хаця яны ў першую чаргу патрабуюць чалавечнасці і спагады.

Завяршылася наведанне замежнымі суайчыннікамі таварыства сляпых канцэртам прафесійных артыстаў, традыцыйнай беларускай гарбатай. У час яе нашы землякі з-за акіяна ахвяравалі грошы ў фонд Рэспубліканскага рэабілітацыйнага цэнтра для невідушчых.

**Яўген ТУРАЙКЕВІЧ.**



**НА ЗДЫМКУ: хлеб-соль замежным суайчыннікам у час сустрэчы ў Беларускім таварыстве сляпых.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

*НАША СПАДЧЫНА*

Муры гэтага храма відаць яшчэ з віцебскага гасцінца. Першым поглядам ён падаецца шарачковай псеўдарускай будынінай, якіх шмат наўтыкалася па беларускіх землях пасля захопу іх Расійскай імперыяй. Але так здаецца толькі спачатку. Больш уважлівыя агледзіны дазваляюць зазначыць даўняе паходжанне помніка. Звонку — рысы рэнесансу, па фасадзе — класіцызм, нутро ж барокавае, дашчэнту працятае зялёнай тванню вільгаці.

Мястэчка Астроўна вядомае з XVI стагоддзя. Мела калісь прывілей кіравацца паводле магдэбургскага права, пра гэта яшчэ да пачатку XX стагоддзя нагадвалі рэшткі ратушы ды гадзіннікавая вежа добрай архітэктуры вышынёй 14 сажняў. Але з відарысу Астроўна, як і з гісторыі Беларусі, не вырваць касцёла, што велічна ўладкаваўся на ўзбярэжжы возера. Схіляюся да высновы, што касцёл быў пабудаваны ў гонар бліскучых перамог войска Вялікага княства Літоўскага над войскамі Маскоўскай дзяржавы, якія адбыліся адна за адной у 1564 годзе на Іван-полі пад Чашнікамі і ля рэчкі Крапіўны пад Оршай. Зважаючы на дрымучую недасведчанасць сучасных беларусаў у пытаннях уласнай гісторыі, мушу патлумачыць ужытыя ў гэтай працы дзяржаўна-этнічныя назовы. Па тым часе беларусы здзяйснялі сваю дзяржаўнасць у асобе Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага. Першыя два азначэнні тычыліся менавіта беларускіх этнічных земляў. Літвой звалася цэнтральная, заходняя і паўднёвая часткі сучасных беларускіх тэрыторый (прыгадайма назвы — Менск Літоўскі, Камянец Літоўскі, Брэст Літоўскі, Палессе Літоўскае). За Падзвіннем і Падняпроўем замацоўвалася назва Беларусь (Русь). Продкаў сучасных летувісаў тады называлі жамойтамі і аўкштайтамі. Іншаземцы ж, асабліва масквічы, часам надта не ўдакладнялі межы гэтых паняццяў і звалі насельнікаў Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага проста літоўцы, а вялікага князя літоўскага — літоўскі кароль. У сваю чаргу падданых Маскоўскай дзяржавы (Вялікага княства Маскоўскага) звалі маскавітамі, маскавіцянамі.

15 лютага 1563 года вялікі князь маскоўскі Іван Жахлівы пасля працяглай аблогі захапіў Полацк. Полацкага ваяводу Станіслава Давойну з жонкай, уладыку Гарабурду, Івана Глябовіча і ўсіх літоўцаў насуперак папярэдняй дамове ён узяў у палон і загнаў у Маскву. Манахаў-бернардзінцаў загадаў пасекчы, а жыдоў утапіць у Дзвіне. Волю даў толькі польскім ротмістрам з іхнымі ротамі, надарыўшы кожнага з ротмістраў сабалінай шубай ды добра пачаставаўшы. Пакінуўшы ў Полацку баяраў ды ваяводаў: князя Пятра Шуйскага, князёў Пятра і Васіля Сярэбраных-Абаленскіх, Івана Шарамецева Меншага з вялікай колькасцю войска, — сам Жахлівы вярнуўся ў Маскву.

# АСТРОВЕНСКІ КАСЦЁЛ



На наступны год маскоўскі гаспадар прыняў і выслухаў каралеўскіх паслоў, але тым часам накіраваў свае войскі да межаў Вялікага княства Літоўскага і спыніў перамовы аб замірэнні. Літоўскія паслы дасягнулі сваёй мяжы і паведамілі, што маскоўскае войска набліжаецца трыма часткамі. Першая, складзеная з васьмі тысяч конніцы на чале з царэвічам Казанскім, ідзе да Полацка. Другая, набраная ў Смаленску і з земляў Пскоўскай, Ноўгарадскай, Тарапецкай і Луцкай, складзеная з такога ж ліку конніцы, пад кіраўніцтвам ваяводы Шэіна ідзе на Оршу з намерам узяць Кіеў. З трэцяй часткай мусіў пайсці сам маскоўскі гаспадар, але колькасць гэтага войска заставалася паслам невядомай. Акрамя таго, уперад адпраўлены быў да Полацка ваявода Шуйскі з 14 тысячамі масквіцянаў. Войска ж караля яшчэ не было сабрана.

23 студзеня Пётр Шуйскі, галоўны ваявода маскоўскага войска, з выбранымі групамі вершнікаў, званых па тым часе кованай раццю, рушыў з Полацка, перайшоў праз Дзвіну і 26 таго ж месяца вывеў свае войска на поле каля ракі Вулы. Адпаведна загаду Жахлівага Шуйскі намерваўся злучыцца паміж Оршай і Дуброўнам з маскоўскай раццю князёў Сярэбраных, якая рухалася са Смаленскай зямлі, змацаваць там лагер і з'яднанымі сіламі пустошыць Літву. Маючы праз лазутчыкаў дакладныя даныя аб прасоўванні войска Шуйскага, гетман найвышні літоўскі Мікалай Радзівіл Рыжы стаяў на той час у

(Заканчэнне на 7-й стар.).

Ул. СЫРАКОМЛЯ

# МІНСК

## МІНСК ЯК НАМЕСНІЦТВА

Працяг. Пачатак у №№ 29—32.



Нарэшце вызваляе яго з цяжкай асады Глінскага і Шамякі. Бунтарны князь уцякае пад Друцк і Оршу, а кароль Зыгмунт спыняецца на нейкі час у Мінску і робіць агледзіны свайго войска.

Гэты эпізод з гісторыі ў першыя гады бягучага стагоддзя натхніў кагосьці на напісанне трагедыі пад назваю «Асада Мінска». Трагедыя гэта, якая гэтаксама магла адносіцца як да Глінскага, так і да Карнэля, як да Мінска, так і да Пекіна, сёння ўжо стала бібліяграфічнаю рэдкасцю.

Калі Мінск вітаў манарха Зыгмунта I у сваіх мурах, альбо, дакладней кажучы, на папялішчы, у якое яго ператварылі татары, а потым Глінскі, тады гэта быў яшчэ малы другарадны горад, хоць яго і залічвалі да важнейшых літоўскіх гарадоў.

У 1513 годзе, як гаварылася вышэй, князь Багдан Іванавіч Заслаўскі быў яшчэ тутэйшым намеснікам, але ўжо з больш абмежаванаю ўладаю — падпарадкоўваўся велікакняжацкаму кіраўніцтву настолькі, што, калі ў тым жа годзе згаданы ўжо Багдан Іванавіч даў базыльянам Вазнясенскай царквы месца для пабудовы прытулку, манахі вымушаны былі звяртацца да кароны, каб пацвердзіць гэтае права.

Гандлёвая мыта і пошліна адыходзілі да велікакняжацкай казны, а ўтрымальнікамі іх, як няцяжка зразумець, былі жыды. Такім мытнікам пры Зыгмунце I быў жыд Міхель, каралеўскі слуга. Калі ў тым жа 1513 годзе запісваліся паборы на будучую вайну з Расеяю, Мінск быў абавязаны толькі паслаць дзесяць конных рыцараў і скласці дзесяць коп грошаў падатку, г. зн. гэтулькі, як Трокі і іншыя невялікія гарады. (Запомнім гэтыя лічбы, бо яны нам паслужаць школай ацэнкі росту горада некалькімі гадамі пазней).

У наступным 1514 годзе Мінск зноў фігуруе ў гісторыі баёў Зыгмунта I з вялікім маскоўскім князем Васілём Іванавічам. Глінскі гэтаксама, як здрадзіў Польшчы, намерыўся здрадзіць і Расеі. Былі перахопленыя ягоныя лісты да Зыгмунта I, у якога, дзякуючы пасрэдніцтву венгерскага караля Уладзіслава, яму ўдалося выпрасіць дараванне. Расейскія войскі тым часам узялі Смаленск. Польскі кароль рушыў з цэлым дваром з Вільні ў Мінск, агледзеў тут войска і павёў яго пад Барысаў. Галоўнае камандаванне з гетманскаю ўладаю атрымалі слаўны Канстанцін Астрожскі і Ян Свярчоўскі. Танчынскія, Кміты, Пілецкія асабіста на чале сваіх атрадаў з'ядналіся з Астрожскім. Пад Оршаю адбылася рашаючая бітва. «Дзяўчаты ў Оршы рыдалі ў такт маскоўскім трубам. Чуўсяляскат і гром расейскай і літоўскай зброі. Баяры і князі рускія на чале харобрых войск сустрэліся з Літвою, і зламаліся коп'і, і загрымелі мячы, і шлемы літоўскія на палях пад Оршаю». Канстанцін Астрожскі атрымаў перамогу, якой (як сцвярджае Карамзін) ніколі яшчэ Літва не мела над Расеяю, узяў у палон военачальнікаў, захапіў абозы, штандары і адолеў каля 30 333 войска. Такая была расправа ў галоўным пабоішчы, але перадавыя раз'езды войск Васіля Іванавіча яшчэ сеялі спусташэнне ў Друцку, Барысаве і Мінску. Горад, хроніку якога мы пішам, заўсёды фігуруе як ахвяра ў чужых крывавых канфліктах.

І яшчэ адна згадка пра яго ў 1519 годзе. Рускія войскі, зваяваныя пад Полацкам, наступнаю восенню зноў уварваліся ў Літву. З летапісу, які цытуе Карамзін, прывядзём тут дэталі таго нашэсця: «1 жніўня 1519 года былі пасланы на непрыяцеля ў Літву ваяводы з вялікім войскам: з Смаленска князь Васіль Васільевіч Шуйскі, з Ноўгарадскай і Пскоўскай Украіны (так!), а таксама з Вялікіх Лук пскоўскі намеснік, князь Міхаіл Васільевіч Гарбаты, а з Старадуба і Себежа князь Сямён Фёдаравіч Курбскі. У мястэчку Крэтве (Крэве) сабраліся літоўскія паны: ваявода віленскі Мікалай Мікалаевіч (Радзівіл), троцкі — Альбрэхт, сын Марціна (Гоштольд), гарадзенскі — Юры, сын Мікалая Радзівіла, старасты жмудскага, а таксама князь Міхаіл Заслаўскі, Ян, сын Мікалая Радзівіла і ляшскі (польскі) ваявода, Ян Свіршэўскі... Расейскія ваяводы, пакінуўшы свой абоз у Красным, пайшлі да іх і пабілі іхнюю нярэдкую ахову; схапілі князя Васіля Палубінскага, Варатынскага, каралеўскага двараніна Чыжа і таксама двараніна, знакамітага чалавека Рая, а ў гарадзенскага ваяводы (старасты) захапілі абоз. Рускія военачальнікі ішлі за непрыяцелем аж пад Вільню, праз Лагойск, Мінск, Айну (напэўна, Гайну), Краснае, Маладзечна, Маркаў, Лебедзева, Крэва, Ашмяны Меднікі, Мядзель, Куранскі камень, Бярэзвіч, Зэсна, Курэц, Валуйск, Радашковічы, Барысаў».

Прыводзім з рускага летапісца цалкам гэтую мясціну пра нашэсце расіян на Літву ў 1519 годзе, бо польскія летапісцы той год былі занятыя вайною Зыгмунта II з прусамі і татарамі і пра гэта нашэсце ўспаміналі толькі бегла.

Не ручаемся, што апроч гэтых, апісаных летапісцамі непрыяцельскіх нашэсцяў, тутэйшыя мясціны не былі ахвяраю спусташэнняў значна большую колькасць разоў. Вайна з Расеяю з невялікімі перапынкамі вялася на працягу ўсяго праўлення Зыгмунта I, а Мінск стаяў на адным з галоўных шляхоў паміж Польшчаю і Расеяю.

Мінск, аднак, нягледзячы на варожыя нашэсці, дзякуючы прывілеі Аляксандра, пачаў даволі хутка расці. Мы прыводзілі з літоўскай метрыкі шматлікія паборы на вайну ў 1513 годзе, што склалі ў Мінску 10 коп тагачасных грошаў. Маем для параўнання іншы падобны прыклад — ваенны статут 1529 года, па якім Мінск плаціць ужо 50 коп грошаў, а гэта значыць, што за шаснаццаць гадоў колькасць насельніцтва ў горадзе павялічылася ў пяць разоў. Іншыя месты павінны былі плаціць, паводле гэтага дакумента, наступнае: Вільня — 1 500 коп грошай, Коўна — 300 коп, Камянец і Магілёў па 200, Бярэсце 150, Пінск і Наваградак па 50, Трокі — 10, Полацк і Крэва па 5 і г. д. Па ўсім гэтым можна меркаваць, што Мінск у 1529 годзе быў горадам меншым за Коўна ў шэсць разоў, за Камянец і Магілёў у чатыры, за Бярэсце ў тры разы, і — большым у два разы за Полацк і Крэва. Што датычыць колькасці насельніцтва, то Мінск раўняўся Пінску і Навагрудку.

У 1541 годзе ў Мінску ўжо было праўленне гараднічага, у абавязкі якога ўваходзіў нагляд за ўтрыманнем і абарончым станам замка. Росту горада вельмі дапамог яшчэ Зыгмунт-Аўгуст адразу ж пасля ўзыходжання на бацькоўскі трон, бо ў 1552 годзе пацвердзіў і пашырыў свабоды, нададзеныя магдэбургскім правам, пабольшыў гарадскія даходы і ўстанавіў штогадовыя кірмашы, якія спрыялі развіццю мясцовага гандлю, тым болей, што Мінск (як ужо гаварылася) стаяў на шляху шырокіх гандлёвых стасункаў з Расеяю.

Дзве згадкі знаходзім яшчэ і ў рускіх гістарычных запісах з эпохі войнаў, якія Васіль Іванавіч і Зыгмунт I пакінулі ў спадчыну сваім наступнікам — Івану Грознаму і Зыгмунту-Аўгусту. У 1563 годзе, калі вялізныя рускія сілы акружылі Полацк, Януш Радзівіл, вялікі літоўскі гетман, з 40 000 войска рушыў на дапамогу Полацку, але, калі горад быў усё ж узяты, а ваяводы вялікага маскоўскага князя пайшлі на Мсціслаў і Вільню, мусіў з сваімі адступіць назад да Мінска. У наступным 1564 годзе, калі канфлікты ўзнавіліся, а расейцы зноў занялі Полацк і Азярышча, у Мінск з'ехалася заможная шляхта з цэлай Літвы для абмеркавання сродкаў абароны.

Іван Грозны загадаў сваім военачальнікам Шуйскаму і Абаленскаму сканцэнтраваць сілы пад Оршаю і ўдарыць на Мінск і Наваградак, але троцкі ваявода Мікалай Радзівіл, апярэдзіўшы гэтыя планы, на чале літоўскіх палкоў і прыдворных харугваў дабіўся недалёка ад Оршы помнай у гісторыі перамогі.

Дзесьці ў гэты час Зыгмунт-Аўгуст гасцяваў у Мінску. Другі раз мог ён тут быць у 1568 годзе, калі ў студзені адпачываў у Койданаве ў свайго шваграа Мікалая Рудога Радзівіла, пра што паведамляў Газыушу Аўгусцін Ратундус Мілезіус.

Вось усё, што нам удалося сабраць з раскіданых успамінаў пра Мінск з эпохі, калі гэтае места па спадчыннаму праву належала вялікім князям.

Згадвалі мы ў дачыненні да 1513 года мінскага намесніка, князя Багдана Іванавіча Заслаўскага, мяркуючы, што ў гэтым намесніцтве была, можа, і рэшта ўдзельнасці, што перайшла заслаўскім князям ад іх прашчура Яўнуты Альгердавіча, вялікага літоўскага князя. Але калі род заслаўскіх князёў з мужчынскага боку звёўся, знікае ў Мінску і тытул намесніка, а з'яўляецца годнасць старасты як судовая ўлада для горада і правінцыі, якім ужо былі дадзены пэўныя свабоды. Такім старастам адразу пасля заслаўскага намесніцтва быў вядомы пісар і падскарбі Зыгмунта I Іван Гарнастай, жанаты, як мяркуе Нясецкі, з заслаўскаю князёўнаю, сястрою Багдана Іванавіча.

Далей бачым на той жа пасадзе старасты Дзмітра Скуміна Тышкевіча, літоўскага маршалка, пасля ягонага сына Хведара і, нарэшце, дзядзьку апошняга, Базыля.

Але набліжалася доўгачаканая хвіліна, калі Польшча і Літва павінны былі з'яднацца супольнымі законамі, адзінаю ўладаю, як бы шлюбным саюзам усяго свайго будучага лёсу. Зыгмунт-Аўгуст 1 ліпеня 1569 года, сабраўшы ў Любліне дзяржаўных прадстаўнікоў абодвух народаў, заклікаў да братэрскага паяднання. Літва выдала дакумент, якім засведчыла, што сардэчна і шчыра ўваходзіць у братэрскую унію, а кароль на чацвёртым дні таго ж месяца зацвердзіў супольнасць правоў абодвух народаў. Важнейшыя літоўскія гарады і правінцыі былі ўроўнены з гарадамі і правінцыямі Польшчы; вызначаліся ваяводствы ў Літве, а яе сенатарам былі дадзены пастаянныя месцы на супольнай вялікай радзе.

Мінск стаў сталіцаю аднайменнага ваяводства. Мінскім ваяводам абралі Гарнастая, кашталянам — Мікалая Тальваша; першаму прызначылі месца ў сенаце паміж паморскім і інфлянцкім ваяводамі, другому — паміж гданьскім і інфлянцкім кашталянамі. Два новыя сенатары падпісалі акт уніі разам з даўнім мінскім старастам Базылём Тышкевічам і з дэпутатам Мінскага ваяводства Янам Клапотам, саноўнікамі і шляхтаю іншых літоўскіх ваяводстваў.

З таго часу Мінск выступае сталіцаю свае правінцыі і часткаю вялізнай дзяржавы Ягелонаў, больш упэўнены ў сваёй бяспецы, смялей разлічваючы на палітычную абарону. Напраўду! Варты ён спакою пасля столькіх вякоў няшчасця і спустошэнняў, пасля шматразовага залівання крывёю і засыпання попелам ваенных пажараў!

## ТРЭЦІ ПЕРЫЯД

### МІНСК — ВАЯВОДСТВА. РОСТ І НЯШЧАСЦІ ГОРАДА

IV

**НОВАЯ БУДОВА ВАЯВОДСТВА. — ШТО ЎПЛЫВАЛА НА ПЕРШАПАЧАТКОВЫ РОСТ ГОРАДА. СЛОЎЦА ГВАГНІНА ПРА МІНСК. — РУСКІ МАНАСТЫР БОЖАГА УЗНЯСЕННЯ. — КАТАЛІЦКІ КАСЦЁЛ. — ЗДАГАДКА АБ ПРАТЭСТАНЦКАЙ ЦАРКВЕ. — МАГДЭБУРГСКІ СТАТУТ У ДАЧЫНЕННІ ВЫБАРНАСЦІ БУРГАМІСТРА І ЛАЎНІКА. — ДАРАВАЛЬНАЯ ГРАМАТА ЗЫГМУНТА III.— МІНСК НА ПОЛЬСКІМ ШЛЯХУ З МАСКВЫ Ў ПОЛЬШЧУ.— ШАВЕЦКІ ЦЭХ. — ЗЫГМУНТ III ПРАЕЗДАМ СПЫНЯЕЦЦА Ў МІНСКУ. — ТАТАРЫ І ЖЫДЫ. — СПРЭЧКІ ПРА РЭЛІГІЙНУЮ УНІЮ. — РАГОЗА, СМАТРЫЦКІ, МАРАХОЎСКІ. — НЯШЧАСЦІ. — КРЫЎДЫ МЯШЧАН. — ПЕРАХОДЫ ВОЙСК.—УСТАНОВА ДАМІНІКАНАЎ. — МАНАСТЫР СВ. АПОСТАЛАЎ ПЯТРА І ПАЎЛА. — ЯШЧЭ ПРА РЭЛІГІЙНЫЯ ХВАЛЯВАННІ. — ЗГАДКІ ПРА ШКОЛЫ. — ПАПАЎНЕННЕ ФОНДУ ДАМІНІКАНАЎ. — БЕРНАРДЗІНЦЫ. — ЗНОЎ СУТЫЧКІ УНІЯТАЎ З ДЫЗУНІЯТАМІ. — ДРУКАРНЯ. АХВЯРАВАННЕ БЕНЕДЫКЦІНАК, ДАМІНІКАНАК І БАЗЫЛЬЯНАК. — УНІВЕРСАЛЫ ЯНА-КАЗІМІРА. — ВЫГЛЯД МЕСТА НА ПРАЦЯГУ ТАГАЧАСНАГА ПЕРЫЯДУ. — ВАЕННАЕ СПУСТАШЭННЕ.**

. Першыя гады новага перыяду з жыцця Мінска нічым значным і вартым занатавання не вызначаюцца. Гаспадарамі гэтага цэнтра новага ваяводства да канца XVI стагоддзя пачаргова былі Габрыэль Гарнастай, Андрэй, Мікалай і Багдан Сапегі, Ян Абрамовіч і Андрэй Завіша, якія пастаянна ў горадзе не жылі. Пад пільным наглядам сваіх кашталянаў і старастаў Мінск пачаў павалі расці і пашырацца як сталіца трох паветаў (Мінскага, Мазырскага і Рэчыцкага). У ім праходзілі шматлюдныя з'езды шляхты. Яна збіралася то на папярэднія соймікі дзеля абрання на сойм ваяводства шасці сваіх паслоў; то тройчы ў годзе — на кадэнцыю земскіх судоў; то на агляды рыцараў, што пачыналіся ў верасні, у дзень Нараджэння Дзевы Марыі, і доўжыліся чатыры дні; то, нарэшце (пачынаючы з 1581 года), — на Літоўскі і казённы трыбуналы, якія праходзілі тут альтэрнатыўна з Вільняю і Навагрудкам.

# НАБЫТАЕ І НЯСТРАЧАНАЕ



Янка БРЫЛЬ з паэтам з Латвіі Еранімам СТУЛПАНАМ.

75 год жыцця. Што гэта для пісьменніка, для чалавека? Сталасць. Вопыт. Магчымасць азірнуцца на пражытае і ўспомніць. Успомніць дарогі і выпрабаванні. А колькі іх было ў Янкі Брыля, пакуль ён не стаў народным пісьменнікам Беларусі і нават калі ўжо быў ім! Сёння пра Брыля напісана шмат. Звярталіся да яго творчасці Алесь Адамовіч, Валянцін Аскоцкі, Міхась Лынькоў. Пасля іх цяжка сказаць нешта новае. Але ж хочацца проста нагадаць творчы шлях пісьменніка, яго думкі.

Пачалося ўсё з першай кнігі «Апавяданні». Была яна выдадзена ў 1946 годзе. Пазней Брыль скажа: «Люблю пісаць апавяданні». Менавіта гэты жанр літаратуры прынёс яму вядомасць. Апавяданні яго, нават у тры старонкі, заўсёды простыя, зразумелыя. Іх не пакідае чысціня і цішыня. Брыль не піша нейкіх вельмі гучных твораў з закручаным сюжэтам і шырокамаштабнымі падзеямі. Яго цікавіць душа чалавека і роля абставін у лёсе. Ён шукае прыгажосць у «маленькім» чалавеку, у прыродзе. Ён можа замілавацца бабулькай, што раздае спелыя сакавітыя яблыкі ў аўтобусе сваім суседзям. Ён можа прымусіць глядзець і дзівіцца на тонкую, нібы празрыстую бярозку.



Іван МЕЛЕЖ, Іван НАВУМЕНКА і Янка БРЫЛЬ.

Акрамя апавяданняў, шырока вядомы раман пісьменніка «Птушкі і гнёзды». Гэта адзін з самых балючых твораў пра вайну ў нашай літаратуры з вельмі драматычнымі падзеямі. Шмат падобнага ў жыцці галоўнага героя Алеся Руневіча і Янкі Брыля. І гэта натуральна: заўжды аўтар пераносіць на любімых сваіх персанажаў частку самога сябе. Алесь Руневіч жыве ў Заходняй Беларусі і прызываецца ў польскае войска. Аднак пачынаецца другая сусветная вайна. Хлопец трапляе ў нямецкі палон. Менавіта такое здарылася і з Янкам Брылём. Быў у яго жыцці палон у Германіі, потым уцёкі, партызанскі атрад. Была вайна ва ўсёй сваёй жорсткасці і абсурднасці. Вайна, якую не забудзеш, бо надта балючыя засталіся ўспаміны. Менавіта яны, мусіць, прымусілі пісьменніка ўзяцца за напісанне кнігі «Я з вогненнай вёскі...». Разам з Алесем Адамовічам і Уладзімірам Калеснікам пісьменнік сустракаўся з людзьмі, лёс якіх быў падобны да лёсу жыхароў Хатыні, збіраў матэрыял для кнігі. Са старонак яе паўстае чалавечы боль і гора. Успамінаюцца словы Янкі Брыля: «Зноў і зноў прыходзіць думка: а як жа, як, як у такой цудоўнай прыродзе, у такой зайздроснай культуры можна было дайсці да Асвенціму?»... Гэтае пытанне, на якое ніколі не знойдзецца адказу, паўстае між радкоў кожнага твора пісьменніка пра вайну, пра яе страшэнную спадчыну.

На старонках твораў Янкі Брыля шмат жанчын. Пяшчотныя жаночыя вобразы — у апавяданнях «У сям'і», «Сцежка-дарожка», трагічныя — на старонках «Галі», «Марылі».

Апавяданне «Марыля» заўжды ў крытыцы называюць класічным і нібы баяцца пра яго гаварыць, абыходзяць. Мне ж яно здаецца паклонам аўтара перад цяжкай жаночай доляй. І нават няважна — жыла яна ў 30-я гады, як Марыля, ці зараз. Жанчыну ніколі не пакідае няўтольная прага сямейнага шчасця. А замест яго ў Марылі — муж, які «дык і набіць яе не мог, пакуль не навучыўся». А калі навучыўся — біў, «як скаціну». Таму і памерла маладая кабета, нарадзіўшы нежывое дзіця. Пасля яе смерці муж будзе судзіцца са сваякамі Марылі за яе пасаг.

Аднак у самых складаных і бязвыхадных сітуацыях Янка Брыль шукае нешта станоўчае. Ён пісаў: «Вышэй за ўсё і перш за ўсё чалавечнасць». І чалавечнасць, дабрыня да людзей прыходзіць перш за ўсё, па Янку Брылю, ад жанчыны. Ён падкрэсліваў аднойчы нават, што няма нічога дрэннага ў ідэалізацыі вобраза жанчыны-маці. Галоўнае, каб ён рабіў нас больш шчырымі і чыстымі.

Кажучы пра Янку Брыля, хочацца адзначыць яго мову, ад якой нельга не атрымаць задавальненне. Мова паэтычная, квяцістая, напоеная пахамі і гукамі роднай прыроды. Заўжды яна насычана жывымі народнымі гаворкамі: «Каля бярозак трохі верасу. Расцвіў у сонцы. Зірнуў угару. Багатая лістота і пярэстыя ствалы пошумам ціха пяюць у блакіт. Краса прыроды кліча да чысціні душы. Гэта не думка, а такое адчуванне».

Мова яго, такая сакавітая і дакладная, з'яўляецца крыніцай, з якой можна чэрпаць і чэрпаць навуку пісаць па-беларуску. Вось што гаварыў сам пісьменнік пра сваю беларускасць: «Ніколі яшчэ не пашкадаваў, што я — беларус, ніколі не захацеў быць некім іншым, таксама, як ніколі не прыходзіў да недарэчнай думкі... стаць жанчынай. Я беларус, як я — мужчына, і проста не магу глядзець на свет іначай».

Вельмі сур'ёзна Янка Брыль ставіцца да свайго прызначэння пісьменніка: «Два найвышэйшыя званні — пісьменнік і чалавек. Адно мне вельмі хочацца набыць, другое — яшчэ больш — не страціць».

Здаецца, сёння няма сумненняў, што яго пажаданні збыліся.

Аднак хочацца ўспомніць, што былі часы, калі аўтар за аповесць «На Быстранцы», «Апошняя сустрэча» і асабліва раман «Птушкі і гнёзды» абвінавачваўся ў скажэнні рэчаіснасці. Алена Васілевіч успамінае, што Янку Брыля неаднойчы распіналі на літаратурным крыжы. За аповесць «Граніца» Брыля папракалі з трыбуны ў «дастаеўшчыне». Ён жа адказаў на гэта, што калі б яго абвінавацілі яшчэ і ў «талстоўшчыне», то ён мог бы спакойна памерці.

Забыліся неабгрунтаваныя папрокі. А ў людской памяці застаўся пісьменнік, да творчасці якога можна бясконца звяртацца і піць духмяны нектар дабрыні і чалавечнасці.

Некалькі год назад Раман Тармола напісаў свой верш «Пасля сустрэчы з Іванам Антонавічам». Ёсць у ім такія словы:

**Ніколі неўчарашні.**
**Вечна сённяшні,**
**Што падуладна толькі**
**мастаку...**

Цяжка не пагадзіцца з паэтам. І хочацца дадаць. Менавіта цікавасць і любоў да чалавечай асобы ва ўсе часы, павага да сваіх герояў далі магчымасць Янку Брылю адбыцца як пісьменніку.

Здольнасць жа ўбачыць за часовымі з'явамі вечнае і заўважыць у простым вялікае дае магчымасць Янку Брылю быць мастаком, якога любіць і шануе чытач.

**Алена СПАСЮК.**



Андрэй МАКАЁНАК, Янка БРЫЛЬ, Алесь АДАМОВІЧ.

# «МУЗЫЧНЫЯ ШКОЛЫ — ЦАГЛІНКІ ЕЎРОПЫ»

Так называўся музычны фестываль, на які былі запрошаны навучэнцы і выкладчыкі дзіцячай музычнай школы № 14 горада Мінска. Фестываль гэты праводзіўся ў ліпені бягучага года ў Германіі ў рамках свята музычных школ зямлі Паўночны Рэйн-Вестфалія. У ім прымалі ўдзел сімфанічныя, камерныя і духавыя аркестры, салісты, ансамблевыя і эстрадныя калектывы. На такія фестывалі запрашаюцца юныя таленты і музыканты з усіх куткоў свету, каб паслухаць адзін аднаго, сумесна паімправізаваць, выказаць тыя ці іншыя думкі, а часам і паспрачацца наконт падыходу да розных выканаўчых стыляў.

Гучала самая разнастайная па стылях і жанравых асаблівасцях музыка — ад старажытных майстроў да сучасных кампазітараў. Сёлета былі запрошаны музыканты з Англіі, Іспаніі, Францыі, Бельгіі. Бадай, першымі музычнымі ластаўкамі з Рэспублікі Беларусь на гэтай зямлі былі навучэнцы Мінскай музычнай школы № 14.

Тое ўражанне, якое зрабіла іх выступленне на слухачоў, цяжка пераказаць. Стрыманыя ўвогуле немцы так сардэчна прымалі і горача апладзіравалі маладым беларускім артыстам, што ў залах Зігбурга, Кёльна, Мюльхайма, Санкт-Аўгусціна панавала атмасфера сапраўднага свята. Слухачы адзначылі арыгінальнае гучанне Алеманды, Куранты, Жыгі — С. Франка ў выкананні квартэта драўляных духавых інструментаў пад кіраўніцтвам В. Майсеенкі. Калі ж выходзілі на сцэну дзяўчаты ў прыгожых ружовых сукенках — квінтэт флейтыстак і гучала «Аве-Марыя» Баха-Гуно ці серэнада Ф. Шуберта, — на вачах слухачоў з'яўляліся слёзы. Вялікім поспехам карысталіся таксама выступленні салістаў, ансамбля ўдарных інструментаў пад кіраўніцтвам В. Дарыенкі.

«Так, гэта сапраўднае мастацтва. Вашы дзеці здзіўляюць нас сваёй дарослацю і падыходам да разумення музычных твораў. Калі маладое пакаленне вашай рэспублікі мае такіх таленавітых прадстаўнікоў, вы вельмі хутка знойдзеце выхад з лабірынту вашых праблем. Мы верым у дасягненні вашай краіны ва ўсіх галінах», — сказаў бургамістр горада Санкт-Аўгусціна ў час прыёму, які адбыўся пасля святочнага канцэрта.

Нямецкая ж зямля ўразіла нашых дзяцей сваёй прыгажосцю і тым, як беражліва захоўваюць яе грамадзяне помнікі гісторыі і архітэктуры, дбаюць аб экалагічнай чысціні навакольнага асяроддзя. Да болю захацелася, каб было так і ў нас. Каб праз узровень духоўнай культуры, аб якім трэба клапаціцца амаль што ў першую чаргу, мы выйшлі на той эканамічны ўзровень, які забяспечвае дастатак і дабрабыт усім грамадзянам.

Але гэтыя думкі з'явіліся ўжо пасля выступленняў, у час дарогі, якая аказалася не такой блізкай, бо амаль дзве тысячы кіламетраў прыйшлося пераадолець беларускім школьнікам. І як тут не сказаць слоў удзячнасці ўсім, хто, разумеючы неабходнасць такой народнай дыпламатыі, дапамог арганізаваць паездку — у першую чаргу Беларускаму фонду міру і Беларускаму дабрачыннаму фонду культурных ініцыятыў «Дзянніца».

**Галіна ЛЕВАШКЕВІЧ.**

# АСТРОВЕНСКІ КАСЦЁЛ

(Заканчэнне. Пачатак на 4-й стар.).

Лукомлі. «У параўнанні з непрыяцелем быў я сапраўды слабы, але сорам і ганьба, прычыненыя мне і ўсёй нашай нацыі і нашаму імені адабраннем у нас места і зямлі Полацкай, прымусілі мяне ўрэшце рушыць супраць непрыяцеля і паблізу Вулы сустрэцца з ім твар у твар», — пісаў гетман у Варшаву. Ваенныя дзеі разгортваліся ў наступным парадку.

Блізу мястэчка пані Кішчынай Чашнікі літоўская старожа паведаміла, што сустракалася са старожаю маскоўскай. Зараз жа туды адпраўлены былі роты Баркулаба Корсака і пана Бака. Непадалёк ад Чашнікаў тыя роты з людзьмі маскоўскімі сустрэліся і колькі вязняў там дасталі. На падмогу ім накіраваны быў князь Саламярэцкі ды пан Мікалай Сапега, а пан гетман дворны з іншымі гуфамі, гарматамі і драбамі ды пан гетман найвышні з троцкім панам Рыгорам Хадкевічам, польным гетманам, стольнікам Іванам Хадкевічам, з князямі Багданам Саламярэцкім, Раманам Сангушкам, Богушам Карэцкім і іншымі хуценька падрыхтаваліся да бою. Пры гэтым гетман найвышні меў у сваім распараджэнні спрактыкаваных і спраўных ротмістраў: Юрыя Зяновіча, спамянёнага ўжо Мікалая Сапегу, Івана Валмінскага, Юрыя Тышкевіча, паноў Бакаў, Баркулаба Корсака і іншых панятаў, а рыцарства літоўскага і рускага, здатнага да бою, — не болей чатырох тысячаў.

Калі ваявода Шуйскі з войскам выступіў з лесу на поле, прылягаючае да ракі Вулы, войска літоўскае выйшла на тую ж раўніну. Нягледзячы на перавагу ў людзях і на мясцовасць, якую маскавіты занялі загадзя, Шуйскі даў мажлівасць Радзівілу разгарнуць свае гуфы, чакаючы на сваёй палове поля. Прыкмеціўшы малую колькасць літоўскага войска, масквіцяны запаліліся варварскай ганарыстасцю і далі месца і часу выстраіцца непрыяцелю каля харугваў і падрыхтавацца, спакушаючыся на лёгкую перамогу. З абодвух бакоў сышліся з вялікай жорсткасцю. Першымі ў валку кінуліся бурграў полацкі і пан Бак, роўны бурграву па адвазе. Следам пайшлі Юрый Зяновіч і ваявода Саламярэцкі, таксама мужы слаўныя справамі ўнутры і за межамі дзяржавы, знаныя сваім паходжаннем. Колькі часу яны стрымлівалі ўсю моц ворага. Бойка доўжылася не болей дзвюх гадзінаў, спачатку той і супраціўны бок адступалі папераменна. Аднак свежыя ваяры, сланыя Радзівілам туды, дзе ўгледжвалася слабасць, мужнасцю сваёй так хутка збілі непрыяцеля з месца, што адабралі ў яго мажлівасць страляць. Пад ноч войска маскавітаў стала адступаць. Паранены Шуйскі змушаны быў ратавацца ўцёкамі. Як толькі быў размецены перадавы маскоўскі полк, за ваяводам пабегла ўсё войска. Месяц ужо блішчэў поўняй, з яго дапамогай літоўскае войска праследавала ўцякаўшых на працягу пяці міляў, уся гэтая прастора была ўкладзена забітымі. Немалая колькасць маскавітаў загінула ў вадзе ракі Вулы і яе прытока Крывіцы. Па падліках найвышняга гетмана, страты маскавітаў загінуўшымі былі лікам дзевяць тысячаў. Палонныя сцвярджалі, быццам агульная колькасць маскоўскага войска дасягала 20 тысяч, Радзівіл жа прыкідваў іх лікам ад 17 да 18 тысяч. Непрыяцель быў разбіты, Шуйскі кінуў на полі ўвесь свой абоз — пяць тысяч з ліхвою павозак, з якіх літоўскае рыцарства багата назапасіла харчоў, футраў, адзення і срэбнага посуду — кубкі ды іншыя прылады дзеля піцця, рознага скарбу, мноства латаў, панцыраў, да дзвюх тысячаў адзінак зброі, мноства рознага вайсковага рыштунку звыш таго, што маскавіцяны мелі на сабе. «Трэба ведаць, што ў маскоўскага народу ёсць звычка перад бітвай апранаць на зброю каштоўныя рознакаляровыя адзенні, так што войска мае выгляд квітнеючага лугу», — заўважаў папскі нунцый кардынал Кмендоне. Увесь той рыштунак і зброя везены былі Шуйскім дзеля перадачы ідучай са Смаленска бяззбройнай часткі войска князёў Сярэбраных, якое было набранае з аддаленых правінцый Масковіі і не мела абозу. Маскоўскі гаспадар спадзяваўся правесці яго спакойна.

На вялікае здзіўленне сучаснікаў, у літоўскім войску забітымі налічылі толькі дваццаць чалавек, паранёнымі — каля сямісот: уцёкі вядомага вельмі адважным ваяводы ахапілі маскавітаў такім жахам, што яны пабеглі на зламанне галавы. Па недаглядзе ў цемры былі пасечаны некаторыя маскавіцяны, перайшоўшыя ў літоўскае войска год таму на чале з князем Прапойскім. Смерць знайшла іх з-за іхняй маскоўскай апраткі. Багата было ўвязнена прыдворных, якія мелі пры маскоўскім гаспадары важную значнасць, і іншых асобаў шляхетных.

У гэтай бітве сам гетман найвышні Мікалай Радзівіл паказаў вялікую мужнасць і досвед у вайсковай справе. Тут ён даў першы ўрок свайму сыну Крыштафору, юнаку 16 гадоў, з выгляду амаль дзіцяці. Не меншая слава прыпісвалася адважнаму і дасканаламу ў вайсковай справе Георгу Гадкоўскаму, кашталяну, начальніку наёмных войскаў, гэтаксама і ягонаму пляменніку Хадкевічу, юнаку бадзёраму і надзеленаму не толькі вялікім розумам, але і ваеннымі здольнасцямі. Пасля бітвы на Іван-полі Радзівіл меў намер выступіць з войскам да Оршы, каб перашкодзіць паглыбіцца ў абшары Вялікага княства Літоўскага і там жа чакаць польскай рацi з Барысава.

Войска маскоўскае князёў Сярэбраных, колькасцю да 50 тысячаў, стаяла ў дзвюх мілях ад Оршы. Яго стрывожыў ротмістр Філон Кміта-Чарнобыльскі наступным хітрыкам. Ён паслаў у Дуброўну ганцоў з весткай аб перамозе над маскавітамі і гібелі Шуйскага на Іванскім полі, а між тым загадаў ім ехаць туды, дзе, па ягоных разліках, стаяла маскоўская старожа. Калі маскавіты злавілі ганцоў з тымі лістамі і маскоўскі гетман Сярэбраны прачытаў іх, дык маскавіцяны да таго ўстрывожыліся, што, кінуўшы ўсе абозы, намёты і вайсковы рыштунак, пайшлі наўцёкі з усім войскам. Філон Кміта з мсціслаўскім ваяводам Юркам Восьцікам, маючы не болей 2 тысячаў рыцарства, праследавалі ворага з крыкам, забіваючы, секучы і забіраючы ў палон. Пасля гэткага пагрому маскавітаў забрана было ў іхным лагеры 25 тысячаў вазоў з вялікімі лупамі — каштоўнае адзенне, розныя строі, шлемаў на шэсць тысячаў чалавек, якія везлі за войскам. Аршанцы паведамлялі, што такіх вялікіх лупаў і пры вялікай Аршанскай бітве не было ўзята (маецца на ўвазе перамога Канстанціна Астрожскага над войскам Васіля III у бітве пад Оршай 1514 года. — **М. П.**). Такім чынам, дзве вялікія часткі маскоўскага войска, што павінны былі злучыцца на палях друцкіх, а потым з'яднанымі сіламі рушыць на Вільню ці куды яшчэ ў глыб Вялікага княства Літоўскага, гэтыя дзве вайсковыя армады дзякуючы дзіўнай сіле боскай і доблесці літоўскай былі часткова рассеяныя, часткова вынішчаныя, разбітыя і пазбаўленыя абозаў. У першай бітве Шуйскі загінуў, цела ягонае было знойдзена ў рацэ. Шарамецеў быў шкодліва прабіты дрэўкам і, прыехаўшы да Полацка, хутка памёр.

«Военные действия 1564 года не были удачными для русской (Маскоўскай дзяржавы.—**М. П.**) стороны. 26 января 1564 года в битве на реке Уле, недалеко от Полоцка, небольшая литовская армия под командованием великого гетмана Литовского Радзивила Рыжего и польного гетмана Литовского гр. (Григория. — **М. П.**) Ходкевича разбила большую армию. Вторая русская армия потерпела поражение под Оршей 2 июля (на самай справе 2 лютага) 1564 года. Эти поражения сопровождались актами прямой государственной измены и переходом в лагерь противника со стороны реакционного боярства». На меркаванне гэтага ж гісторыка, значнага ўплыву на ход ваенных дзеянняў згаданыя бітвы не мелі. Гэта яўна заніжаная ацэнка. У сапраўднасці была спынена і папярэджана масіраваная ходка маскоўскага войска ў глыб Вялікага княства Літоўскага. Спынена дзякуючы перавазе ў тактыцы, майстэрскаму вядзенню разведкі і контрразведкі. Заўважым, што кожны крок маскоўскага ваяводы з палком падрабязна вызначаўся асабіста Жахлівым у разраднай кнізе. Гетман жа найвышні Літоўскі меў ад караля толькі агульную стратэгічную задачу—пры першай мажлівасці панішчыць ворага і, адпаведна, аператыўную прастору.

Уражваюць вельмі нязначныя страты людзей у войску Вялікага княства Літоўскага. Гэткая акалічнасць прасочваецца і ў іншых бітвах той вайны — пад Нэўляй у 1563 і ў 1566 гадах, у 1564 годзе пад Азярышчам, у 1567 годзе пад Вулай. У 1563 годзе чэрскі кашталян Станіслаў Ляснявольскі з малой колькасцю жаўнераў разбіў 40 тысяч войска ваяводы Курбскага пад Нэўляй. Выйгрыш гэтай бітвы здаваўся неверагодным, масквіцяны не перапыняліся здзіўляцца. Параненага Курбскага абвінавацілі ў прайгранай бітве, той жа адказваў аднаму з ваяводаў так, паказваючы на ворага: вось яны яшчэ там, ідзі паглядзі і ты, можа табе зладзіцца лепей, чым мне, я ж не хачу спрабаваць болей — яны мне далі знаць сябе. Баючыся быць абвінавачаным перад вялікім князем Маскоўскім, Курбскі перабег у войска літоўскага караля. Высокі маральны дух ваяроў Вялікага княства Літоўскага тлумачыцца тым, што біліся яны за сваю дзяржаву і яе незалежнасць з агрэсарам, нахабна прыйшоўшым на іхнюю зямлю. Як бы там ні было, але да ворага літоўскае і рускае рыцарства ставілася з павагай. Цела забітага на Іванскім полі Шуйскага было з вялікай пашанай пахавана ў Прачысценскай царкве ў Вільні, дзе звычайна хавалі беларускіх князёў. У 1569 годзе кароль Жыгімонт Аўгуст дазволіць цела нябожчыка памяняць на цела памершай у маскоўскай няволі малжонкі полацкага ваяводы Станіслава Давойны Петрунелы Радзівіл.

Але вернемся зноў да астровенскага храма. Фундатарам касцёла быў вялікі князь і кароль Жыгімонт Аўгуст. Ён жа ахвяраваў сюды абраз Багародзіцы, упрыгожаны багатымі шатамі. Той першы храм, закладзены Жыгімонтам, быў пабураны, віцебскі ваявода Міхал Пацей аднавіў яго. Каля 1620 года Аляксандр Сапега, ваявода мсціслаўскі, пабудаваў пры касцёле кляштар, куды запрасіў манахаў дамініканскага ордэна.

У сучасным стане касцёл уяўляе сабой выцягнуты па восі ўсход—захад будынак. Робяць ураўжанне мажныя сцены таўшчынёй болей за метр і слупы шырынёй да 1,5 метра. Нефы і апсіда перакрытыя крыжовымі скляпеннямі. Павярховае даследаванне паказала, што ў помніку сустракаюцца розныя тыпы муровак: у ніжняй частцы гатычная, у пілястрах простая рэнесансная, тычковая ў заходняй сцяне. Гэта сведчыць пра шматлікія перабудовы храма на працягу ягонага амаль пяцісотгадовага існавання. Верагодна, той першапачатковы касцёл быў збудаваны ў гатычных традыцыях, аднак у другой палове XVI — пачатку XVII стагоддзяў набыў рэнесансны характар. Каля сярэдзіны XVIII стагоддзя інтэр'ер храма быў аздоблены пластыкай барока, напрыканцы гэтага ж стагоддзя будынак звонку набывае тыповыя рысы класіцызму. Апошнюю пераробку касцёл напаткаў у XIX стагоддзі, калі яго перарабілі ў царкву, «перакруціўшы» на 180 градусаў: алтар перанеслі на ўсход, былая алтарная апсіда падвысілася ў бабінец, над якім панесла ў неба цыбуліну вежа званіцы, змураваная ў псеўдарускім стылі.

Магчыма, гэта было зроблена пасля падаўлення паўстання 1863—1864 гадоў, тады па Беларусі многа каталіцкіх святыняў перарабілі на расейскі капыл. Такім чынам, у храме вызначаюцца пяць перыядаў яго будоўлі: готыка, рэнесанс, барокавы, класіцыстычны і псеўдарускі. Вызначыць першапачатковы выгляд помніка цяжка, гэта вымагае грунтоўных даследаванняў і пошукаў. Тым не менш нават павярхоўнае знаёмства сведчыць аб надзвычайнай цікавасці астровенскага твора дойлідства, адлюстраванні ім важнейшых этапаў развіцця і гісторыі беларускай архітэктуры. Дадамо яшчэ, што ў наваколлі Віцебска гэта адзінкавы ацалелы культавы будынак, вядомы з XVI стагоддзя. У гістарычным сэнсе касцёл ёсць нацыянальная святыня беларусаў, памятка іхняга гераічнага змагання за незалежнасць. Гісторыка-культурная вартасць мястэчка Астроўна падвышаецца яшчэ й тым, што тут нарадзіўся славуты дзеяч еўрапейскага сярэднявечча, волат інтэлекту, ідэолаг аднаўлення незалежнасці Вялікага княства Літоўскага Леў Сапега, адзін з аўтараў Статута Вялікага княства Літоўскага 1588 года. Нашае ўсведамленне згаданай асобы перыяду залатога веку беларускай культуры толькі распачынаецца.

**Міхась ПАЎЛАЎ.**

## СА СКАРБАЎ НАРОДНАГА МАСТАЦТВА

# ЖЫВЫЯ СТРУНЫ

Рыгор Шырма пісаў, што шмат мудрасці, трывогі і радасці, шчырай любові і праўды захавалася ў скарбах народнага мастацтва. Яно нарадзілася ў далёкія часы гісторыі народа, разам з ім расло, мацнела, развівалася, перадаваючы тым самым волю і няволю многіх пакаленняў... Словы гэтыя ўспомніліся пры сустрэчы з Іванам Крагельскім.

Іван Андрэевіч паволі, не спяшаючыся, дастае з футарала сваю прыгожую, з бліскуча-чорным адценнем незаменную спадарожніцу жыцця — скрыпку. Беражліва, ласкава праводзіць рукою па струнах, нібы здымаючы нябачны налёт часу, прытуляе, як тое дзіця, да сябе. Некалькі хвілін чакае, застыўшы ў задуменні. Вырашае, відаць, з чаго пачаць. А потым асцярожна праводзіць смычком па струнах.

І яго верная сяброўка тут жа адгукаецца чароўнай мелодыяй старадаўняй беларускай велікоднай песні. І так прыемна, сама сабой уліваецца тая песня ў душу, так пяшчотна і лагодна робіцца на сэрцы, што, здаецца, усё наўкола, увесь свет перайначваецца ў адно цудоўнае, непаўторнае імгненне. І іграе стары музыка ўжо не для прысутных, а для самога сябе. А можа нават для ўсёй беларускай зямлі: для лясоў, рэчак, палёў, адкуль чэрпае новыя сілы, непараўзыдзенае натхненне. Ляці, песня, у белы свет, ляці да ўсіх добрых людзей, нясі ў падарунак дарослым і дзецям толькі радасць!

Спрацаваныя, жылістыя рукі самародка з Дзятлаўшчыны павольна водзяць смычком. Скрыпка, глядзіш, ужо зліваецца са сваім гаспадаром у адно цэлае, і ў такія хвіліны здаецца, што ніхто не ў сілах разлучыць, разарваць гэтае адзінства і супольнасць, хіба толькі смерць.

...Адклаўшы скрыпку, слова за словам музыкант пачынае ўспамінаць:

— Гэта пятая скрыпка ў маім жыцці і самая дарагая, бо, відаць, апошняя. Некалі выменяў яе ў аднаго мясцовага дзеда, які хадзіў па вуліцах і граў людзям. Яна даўняя, яшчэ дарэвалюцыйная, зроблена ў Германіі. Шмат вяселляў адыграў на ёй. Мы некалі з суседам Пятром Шыдлам, які іграе на баяне і акардэоне, аб'ехалі ўсё наваколле. Паўсюдна запрашалі нас, асабліва любілі слухаць на вяселлях. Раней жа не тое было, што цяпер. Абрадавыя песні гучалі маладой, маладому, і трэба было іх падыграць, а некаторыя і ўлавіць на ляту. Што ні вёска — свая песня, свая мелодыя. Гэтага нельга забыць, часта ўспамінаю, асабліва, калі застаюся адзін...

Іван Андрэевіч з вёскі Погіры пражыў больш за семдзесят гадоў. Прайшоў праз усе выпрабаванні лёсу, зведаў радасць і гора. Сям'я ж бацькі была шматдзетнай, малазямельнай. Многа нястач давялося перанесці Івану ў дзяцінстве. А калі прыйшла ў Заходнюю Беларусь польская ўлада, увогуле, як кажуць, ледзь зводзілі канцы з канцамі. Але нават цяжкая фізічная праца з ранняга дзяцінства, пастаяннае ўсведамленне свайёй прыніжанасці, свайго жабрацкага становішча не загубілі ў хлопца цягу да прыгожага, да народнай музыкі, што ішла аднекуль з самай глыбіні народных крыніц.

(Заканчэнне на 8-й стар.).

## АДНЫМ СЛОВАМ—МАЙСТРЫ



Сабе на радасць, людзям на заглядзенне пабудаваў дом жыхар Добруша Іван Антоненка. Драўляныя карункі, кампазіцыя «Алесь-дудар», што ўпрыгожваюць фасад будовы, — усё сведчыць пра цягу да прыгожага і талент майстра. У мінулым вайсковец, затым работнік мясцовага райвыканкома, Іван Антоненка цяслярскай справай захапіўся параўнаўча нядаўна. Але дасягнуў многага. Што ні кажыце, а талент ёсць талент.

НА ЗДЫМКУ: Іван АНТОНЕНКА з унучкай каля свайго дома.

Фота С. ХАЛАДЗІЛІНА.



Станіслаў Спургяш з вёскі Лаздуны, што ў Іўеўскім раёне,— майстар на ўсе рукі. І кошык спляце, і калёсы змайструе, і дугу сагне. А ўспомніўшы бацькоўскія работы, здзівіў нядаўна аднавяскоўцаў вырабам з лазы. Палукашак — так называюць тут своеасаблівы кошык, складзены з дзвюх частак, сплецены з лазы па форме «драбіны»—вазка з высокімі бартамі. З дапамогай яго за некалькі мінут звычайныя калёсы ператвараюцца ў зручны і прыгожы пасажырскі экіпаж. Кінь у палукашак бярэмя духмянага сена, садзі жонку, унукаў (чыста і ўтульна, ды і не вываляцца) і выбірайся ў дарогу.

НА ЗДЫМКУ: Станіслаў СПУРГЯШ і яго работа з лазы — палукашак.

Фота Я. КАЗЮЛІ.

# ЖЫВЫЯ СТРУНЫ

(Заканчэнне. Пачатак на 7-й стар.).

Івану вельмі падабалася слухаць, як дарослыя дзядзькі іграюць на скрыпцы. Затоіцца дзе-небудзь у куточку на вяселлі, прытуліцца ў запеччы і слухае, слухае, ловіць надзвычай прыемныя і такія таямнічыя для яго музычныя гукі.

Скрыпкі ў сям'і не было, ды наўрад ці мог хлопчык адважыцца папрасіць у бацькі, каб той купіў яму гэты інструмент. Надта вялікая была б раскоша. Але жаданне паспрабаваць іграць ці хаця патрымаць у руках гэтую цудоўную рэч, якая прыносіць столькі асалоды, не пакідала яго.

— Аднойчы на вяселлі асмеліўся падысці да барадатага дзядзькі, які іграў на скрыпцы,— расказвае Іван Андрэевіч,— папрасіў спачатку патрымаць, а потым ціхенька прытуліў яе да сябе і зайграў. Зайграў, і сам здзівіўся і разгубіўся. У мяне атрымалася! Не вельмі добра, недасканала, але мелодыю можна было разабраць. Яна загучала моцна і выразна. Да смерці буду помніць, як дзядзька-скрыпач пахваліў мяне і сказаў, што буду добрым музыкантам, калі бацька купіць мне скрыпку, а я буду працаваць над сабой.

Так пачалося захапленне музыкай Івана Крагельскага. Шмат гадоў скрыпка была побач. У руках майстра яна і плакала, і спявала, наводзіла на роздум, вучыла цярпенню і непакорнасці, радавала і прымушала смуткаваць.

Пры панскай Польшчы ў сям'і, ужо створанай самім Іванам, было тры гектары зямлі. Прыходзілася, вядома, нямала рабіць, каб быў кавалак хлеба. А тут на свет пачалі з'яўляцца дзеці. Нарадзіўся адзін сын, потым другі. Цяжкая хвароба ў хуткім часе звяла ў магілу старэйшага, хваравітым быў сярэдні. Апошнія грошы даводзілася аддаваць урачам, якія, праўда, бралі толькі золатам. Не да скрыпкі было Івану, не да весялосці. Дарэчы, на той час у яго ўжо быў старэнькі інструмент, але на вяселлях не іграў, саромеўся. Ды і свая бяда прымушала сядзець дома.

Калі прыйшлі немцы, стала яшчэ горш. Кожны дзень прыносіў новую трывогу, новыя непрыемнасці. Барацьба за жыццё дзяцей, за хлеб стала асновай існавання сям'і. У пачатку сорак чацвёртага не стала ў сям'і яшчэ аднаго сына. Засталіся пры разбуранай гаспадарцы, пры нішчымніцы.

Трэба было пачынаць новае жыццё. Але як? Змарнелыя людзі, якія перанеслі столькі гора, не ўяўлялі сабе нічога светлага і радаснага ў будучыні. І тут Івану дапамагла музыка, дапамагла не толькі выпрастацца, узняцца духоўна, але і зарабіць сякія-такія грошы, каб пракарміцца. Ён пачаў іграць на вяселлях і хрысцінах, весяліць людзей. І людзі, чым маглі, плацілі музыку. Слабы быў гэты заробак, аднак дапамагаў выжыць у галодныя пасляваенныя гады.

Калі пачалі арганізоўвацца калгасы, Іван Андрэевіч працаваў конюхам, даглядчыкам жывёлы, некаторы час — брыгадзірам. Жонка Дар'я Іосіфаўна была палянодам. У Крагельскіх расло трое сыноў. Адзін у аднаго былі хлопцы: прыгожыя, дужыя, працавітыя, нібы ўзнагародзіў лёс за нястачы і перажытае гора.

— Музыка заўсёды была для мяне асновай жыцця, — успамінае Крагельскі. Дзе б ні быў, заўсёды імкнуўся пачуць нешта новае, навучыцца таму, чаго яшчэ не ведаў.

Пасля вайны самы лепшы базар быў у Лідзе. Часта бываў там па гаспадарчых справах. На базары заўсёды збіраліся музыкі. Пакуль пройдзеш па радах, выбіраючы пакупку, уволю наслухаешся беларускіх песень. Я жонку заўсёды папярэджваў: калі згубіш мяне на базары, то шукай там, дзе іграюць музыкі. Не мог прайсці паўз іх, не спыніцца. А як стану, то, здаецца, слухаў бы да ночы, забыўшыся пра ўсе дамашнія клопаты.

Цяпер Іван Андрэевіч жыве з малодшым сынам Пятром. Жонка памерла. Даводзіцца мужчынам самім упраўляцца ў хаце і па дамашняй гаспадарцы. Але нічога не зробіш: без яе сёння таксама не пражывеш. Асноўная работа ляжыць на плячах бацькі: ён і карову падоіць, і свінням замяшае, і ў хаце прыбярэ. Нялёгка для старога чалавека, але ён ва ўсім парадак любіць. У сваёй душы, у жыцці, у хаце, на падворку.

— Цяжка ў хаце без жанчыны. Хапае ўсялякіх клопатаў — вялікіх і малых, — заначае Іван Андрэевіч. — Сын дапамагае, нічога сказаць не магу, але ў яго, маладога, свае праблемы. Працуе ў райцэнтры, прыязджае позна, таму амаль усё раблю сам. Здароўе, слава Богу, не падводзіць. Перанёс нядаўна аперацыю, але ўсё скончылася добра.

... Сонца схілілася над гарызонтам. Вечарэе. Пасля спякотнага дня павеяла прахаладай. Іван Андрэевіч бярэ скрыпку. І... паліліся з-пад струн чароўныя мелодыі. Адна з іх — «Паланез» Агінскага. А мне ўспомніўся заключны канцэрт раённага фестывалю фальклору, дзе ён выступаў з вялікім поспехам.

Вось менавіта такія людзі, сапраўдныя аматары музыкі, складаюць гонар мясцовага фальклорнага ансамбля, ствараюць і памнажаюць яго славу, дораць слухачам магчымасць, забыўшыся на ўсе клопаты, далучыцца душою да жывой крыніцы народнага мастацтва.

— Дзядуля, зайграй яшчэ што-небудзь, — не даюць яму праходу мясцовыя дзеці.

— Так і быць. Я без вас як птушка без крылляў,— чуецца ў адказ.

Іван Андрэевіч бярэ скрыпку і грае хлапчукам і дзяўчынкам. А нядзельным вечарам збіраюцца тут і стары, і малы. І зноў гучыць, льецца задушэўная, цудоўная музыка.

Іосіф ЗАЯЦ.

## АБ'ЯВА

**Беларускае таварыства інвалідаў па зроку і часопіс «Зрок» сумесна з Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніяй РБ у кастрычніку—лістападзе гэтага года праводзяць дабрачынныя тэлеаўкцыёны «Ад сэрца да сэрца». Сродкі ад іх пойдуць на будаўніцтва першага ў рэспубліцы рэабілітацыйнага цэнтра для невідушчых.**

БелТІЗ налічвае больш за 19 тысяч чалавек. Штогод да 600 грамадзян рэспублікі страчваюць працаздольнасць, атрымліваючы інваліднасць па зроку. Гэтыя людзі маюць вялікую патрэбу ў псіхалагічнай, элементарнай працоўнай рэабілітацыі —адаптацыі да новых няпростых умоў жыцця. Будоўля, пачатак якой запланаваны на бягучы 1992 год, пад пагрозай зрыву ў сувязі з яе катастрафічным падаражаннем. БелТІЗ не ў стане ў адзіночку весці гэта жыццёва важнае для рэспублікі будаўніцтва. Неабходна фінансавая дапамога.

Просім вас адгукнуцца на наша запрашэнне да аўкцыёнаў і ахвяраваць у фонд будуемага Рэспубліканскага рэабілітацыйнага цэнтра для невідушчых прадукцыю вашага прадпрыемства ці стаць спонсарам тэлеаўкцыёна. Ваш удзел будзе ўзнагароджаны тэлевізійнай рэкламай.

Спадзяёмся, што вы не застанецеся раўнадушнымі да чужой бяды.

Чакаем вашай заяўкі на ўдзел да 15 жніўня бягучага года.

**Адрас: 220004, г. Мінск, вул. Вызвалення, 9, тэлефоны: 26-88-88, 26-86-00.**

**Разліковы рахунак: Дырэкцыя будуемага РРЦ БелТІЗ: 200609233 у гарадской дырэкцыі Мінскбізнесбанка ў г. Мінску, МФО 153001764.**

**Валютны разліковы рахунак таварыства: 069070080 001 у Знешэканомбанку г. Мінска, МФО 153001226.**

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).



НАШ АДРАС:

220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Газета аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку»
Тыраж 5 500 экз.
Індэкс 63854. Зак. 1428.
Падпісана да друку 10.08.1992.
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12